6 лістапада 2015 | № 42 (459)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Вандроўкі па Беларусі на запалкавых этыкетках
стар. 15

**5 СТАЛІНІЗМ НЕ ПАВІНЕН МЕЦЬ ШАНЦАЎ**

Грамадскі камітэт рыхтуе зварот у Генпракуратуру з патрабаваннем узбуджэння крымінальнай справы па сукупнасці фактаў, выкладзеных у абвінавачым вердыкце сталінізму ў Беларусі

**6 МУЖЧЫНА Ў ДЭКРЭТНЫМ: ДЗІВА ЦІ ШАРАГОВАЯ З’ЯВА**



У Швецыі тата ў дэкрэтным — нармальная з’ява. «Гэта — магчымасць зблізіцца са сваімі дзецьмі. Гэтым шанцам прыемна скарыстацца», — гаворыць Патрык

**13 НЕВЯДОМЫ МАЙДАН**

У верасні-кастрычніку маленькую Чарнагорыю ахапілі масавыя пратэсты супраць уступлення краіны ў NATO



**14 ГУЛАГ ВАЧАМІ АНАЛІТЫКАЎ КОРПУСА АХОВЫ ПАМЕЖЖА**

Да пачатку Другой сусветнай вайны аналітычная праца выведнікаў КАП разам з іншымі дакументамі Другога аддзела Генеральнага штабу Войска Польскага знаходзілася ў Варшаве

# Захад дапаможа?

## Падаецца, у Еўропе заяву палітыкаў успрынялі як «легітымізацыю» рэжыму



Сяргей ПУЛЬША

Частка апазіцыянераў, якія выступалі за байкот выбараў, нечакана звярнулася да Еўрасаюза з просьбай паспрыяць дыялогу з уладай. Колькі высілкаў яны паклалі на тое, каб не дапусціць «легітымізацыі ўлады на Захадзе», і зараз сваёю заяваю фактычна перакрэслілі ўсю сёлетнюю барацьбу.

Як піша афіцыйны часопіс Еўрасаюза «Euobserver», пяцёра беларускіх апазіцыйных лідараў звярнуліся з адкрытым лістом да ЕС з просьбай перазапусціць унутраныя перамовы аб дэмакратычных рэформах у Беларусі. Ліст з’явіўся 30 кастрычніка, калі стала зразумела, што ЕС прыпыняе санкцыі супраць Лукашэнкі і яго атачэння.

Зварот падпісалі прадстаўнікі найперш «непрымірымай апазіцыі»: старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні БХД Павел Севярынец, а таксама Уладзімір Някляеў і Мікалай Статкевіч. Да іх далучыўся лідар партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін.

Як гаворыцца ў лісце да кіраўнікоў інстытутаў ЕС, блок павінен выкарыстаць свой уплыў на Аляксандра Лукашэнку, каб перазагрузіць «круглы стол» паміж уладай і апазіцыяй пры пасярэдніцтве АБСЕ, законсерваваны ў 1999 годзе. Палітыкі лічаць, што «перамоўны працэс», які павінен уключаць пасрэднікаў ад АБСЕ і ад органаў ЕС, можа «пашырыць прастору свабоды» для рэформаў. Яны таксама заклікалі ЕС патрабаваць лепшых стандартаў у Беларусі падчас парламенцкіх выбараў у наступным годзе, напрыклад, шляхам прыняцця апазіцыянераў у выбарчыя камісіі і забеспячэння «адкрытага і празрыстага» падліку галасоў.

Адзін з падпісантаў гэтага ліста, Анатоль Лябедзька, патлумачыў неабходнасць такога звароту. «Гэта суверэннае права ЕС — прымаць кропкавыя абмежаванні ў дачыненні да чыноўнікаў, якія парушаюць унутранае права і міжнародныя абавязкі і замарожваць гэтыя абмежаванні ці наогул адмяняць. Замарозка санкцый адбылася, але не агучана, што мусіць зрабіць беларуская ўлада за гэтыя месяцы замарожвання. Тут пытанне правісае. І мы вырашылі ўзяць гэта на сябе і сфармулявалі «дарожную мапу» — што пажадана зрабіць для Беларусі за той час, пакуль кропкавыя абмежаванні знаходзяцца ў замарожаным стане», — сказаў палітык.

Першы крок, зазначыў палітык, гэта не «круглы стол», як падаецца ў СМІ, а змены ў выбарчае заканадаўства і правапрымяняльную практыку. «Мы так і называем гэты крок — вярнуць людзям права выбару», — падкрэсліў Лябедзька. А ўжо потым ідуць і перамовы з апазіцыяй, і сумленнае правядзенне парламенцкіх выбараў 2016 года.

У адказ на абвінавачванні ў тым, што, пасля ігнаравання выбараў і «недапушчэння легітымізацыі рэжыму» яны самі прынялі захады да гэтай легітымізацыі, палітык адказвае: «Тое, што мы рабілі па дэлегітымізацыі выбарчай кампаніі — давайце назавем рэчы сваімі імёнамі, — яно і ўвайшло ў высновы, якія зрабілі міжнародныя наглядальнікі БДІПЧ АБСЕ. Мы справу выканалі добрасумленна: сабралі доказы, што няма свабодных і сумленных выбараў. А што далей? Далей я нічога не бачу, як рабіць прапанову мяняць выбарчае заканадаўства і правапрымяняльную практыку. Мы змушаны зрабіць гэта, каб не аддаваць перамоўную пляцоўку з Захадам на сто працэнтаў Лукашэнку».





**Палітыкі лічаць, што перамоўны працэс можа пашырыць прастору свабоды**

Палітолаг Аляксандр Класкоўскі наконт заявы палітыкаў да ЕС адзначыў, што «іронія сітуацыі сапраўды палягае ў тым, што калі гэтыя апазіцыянеры просяць Еўропу, каб яна зладзіла круглы стол з Лукашэнкам, то яны самі дэ-факта прызнаюць Лукашэнку за легітымнага кіраўніка ў краіне». «Бо іначай яны, згодна з іх жа парадыгмай, мусяць ставіць яго ў ігнор», — дадае эксперт.

Лукашэнка не стане сядаць з імі ні за круглы, ні за квадратны стол, упэўнены эксперт. Ён узгадаў, што перамовы ўлады і апазіцыі і ў 1999 годзе ні да чаго не прывялі, нягледзячы на некаторыя дасягнутыя дамоўленасці і нават на тое, што ў тыя часы апазіцыя была значна больш моцная і кансалідаваная, чым зараз. «А зараз хто прапануе перамовы? Двое з іх не здолелі сабраць сто тысяч подпісаў для рэгістрацыі кандыдатамі ў прэзідэнты, астатнія не маюць зарэгістраваных у краіне структур. Для Лукашэнкі яны «збітыя лётчыкі», з якімі размаўляць не варта», — кажа Класкоўскі.

Ці ёсць заява палітыкаў «легітымізацыяй рэжыму»? На гэты конт можна шмат спрачацца, але ў Еўропе яе, падаецца, успрынялі менавіта так. Напрыклад, дэпутат Еўрапарламента ад Літвы Петрас Аўштравічус ужо ўхваліў ідэю круглага стала. І дадаў: «Для мяне Беларусь з’яўляецца ўсходнім партнёрам ЕС — гэта вельмі складаны, з вялікай колькасцю недахопаў, але ўсё ж такі партнёр».

Варта зазначыць, што гэтую «дарожную мапу» не падпісала кандыдатка на прэзідэнцкую пасаду Таццяна Караткевіч.

# Гродзенскія прадпрымальнікі супраць тэрміналаў

Юрый ДУБІНА

**Надыход новага года беларускія прадпрымальнікі чакаюць з жахам. У дадатак да ўсеагульнай сертыфікацыі, з 1 студзеня на плечы ІП ляжа цяжар абавязковага ўсталёўвання банкаўскіх тэрміналаў для безнаяўных разлікаў у кожнай гандлёвай кропцы, дзе існуе касавы апарат.**

Зразумела, што банкаўскі тэрмінал — гэта зручна. Але шмат прадпрымальнікаў лічаць гэта дадатковым каменем на шыю для свайго бізнесу. Прычым, настолькі небяспечным каменем, што да акцыі супраць абавязковага ўсталявання тэрміналаў далучыліся актывісты аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

«Не кожны прадпрымальнік мае абарот, каб дазволіць сабе набыццё тэрміналу коштам ад 10 мільёнаў і вышэй, — мяркуе актывіст БХД Сяргей Верамеенка. — Зараз мы збіраем подпісы супраць гэтага рашэння на рынках Гродна. Сустрэлі жанчыну перадпенсійнага ўзросту, якая яшчэ год-два папрацуе прадпрымальнікам, і сыходзіць. І што ёй рабіць з гэтым тэрміналам?»

Актывіст адзначае, што пакупніцкая здольнасць насельніцтва імкліва падае. «Зараз збіраем подпісы на рынку «Карона» — людзей тут амаль няма. У нядзелю мы былі на «Паўднёвым» рынку — пакупнікоў няма. Калі прадпрымальнік будзе купляць тэрмінал, ды яшчэ і плаціць за яго абаненцкую плату штомесяц, плюс банк будзе забіраць працэнт за абслугоўванне банкаўскага рахунка, — грошай не набярэшся», — кажа ён.

Па словах Верамеенкі, такое ж пытанне падымалі і гродзенскія таксісты — ІПэшнікі. Яны ўжо пісалі звароты ў Нацбанк і Савет міністраў з просьбай адмяніць пастанову. Але ім адказалі, што ўлады ўжо пайшлі ім насустрач і з-за дрэннай эканамічнай сітуацыі перанеслі дзеянне пастановы на 1 студзеня 2016 года.

За адмену абавязковага «абтэрміналівання» ўжо сабрана каля 800 подпісаў, на гэтым тыдні мяркуюць сабраць не менш за тысячу подпісаў і накіраваць у Гродзенскі аблвыканкам, Савет міністраў і прэзідэнцкую адміністрацыю. Патрабаванне адно — скасаваць сумесную пастанову Саўміна і Нацбанка №489 ад 21 мая 2014 года, паводле якой ІП мусяць устанавіць у пунктах рэалізацыі тавараў і паслуг плацежныя тэрміналы.

Старшыня РГА «Перспектыва» Анатоль Шумчанка цалкам згодны: банкаўскія тэрміналы — надзвычай вялікая праблема для ІП. «Гэта вельмі сур'ёзная праблема, асабліва для прадпрымальнікаў, якія не маюць дастатковых абаротных сродкаў. «Перспектыва» дамаглася адтэрміноўкі на паўгода, аднак з новага года пастанова ўступіць у сілу. А для таксістаў узнікнуць нават тэхнічныя праблемы з усталяваннем тэрміналаў», — кажа ён.

Пры гэтым сам Шумчанка досыць скептычна ставіцца да збору подпісаў. «Прадпрымальнікі могуць толькі звярнуць увагу на праблему. Беларускія ўлады пад ціскам абставінаў свае рашэнні не мяняюць. Подпісы — усяго толькі інструмент кансалідацыі людзей, для ўлады яны не маюць ніякага значэння», — лічыць ён.

# Бывай, краіна мільянераў!

Генадзь КЕСНЕР

**Адбылося тое, чаго мала хто мог чакаць менавіта цяпер. Кіраўнік Беларусі падпісаў указ № 450 «Аб правядзенні дэнамінацыі афіцыйнай грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусь». Гэтая падзея адбудзецца 1 ліпеня 2016 года.**

Эксперты не могуць адказаць на пытанне, чаму такое рашэнне кіраўніком дзяржавы было прынята менавіта цяпер. Па словах першага кіраўніка Нацыянальнага банка незалежнай Беларусі прафесара Станіслава Багданкевіча, дэнамінацыю варта было б праводзіць тады, калі б інфляцыя складала 3–5% за год. Зараз мы маем двухзначныя лічбы. Нават Нацбанк прагназуе ўзровень інфляцыі па выніках 2015 года ў памеры 15–18%.

Багданкевіч не выключае, што, магчыма, урад і рэгулятар маюць свае планы па зменшэнні інфляцыі да сярэдзіны наступнага года, але якія, невядома. «Без структурных рэформаў у эканоміцы рэальна зменшыць інфляцыю не атрымаецца, а ці гатовая ўлада да такіх рэформаў?» — задаецца рытарычным пытаннем эканаміст.

Яшчэ адзін момант. Нашы грамадзяне не вельмі абазнаныя ў навуковых тэрмінах. Таму могуць зблытаць «дэнамінацыю» з «дэвальвацыяй». «Гэтых ведаў не хапала і ў мой час кіравання Нацбанкам, калі я праводзіў першую дэнамінацыю. Бо нават некаторыя дэпутаты парламента збіраліся падаваць на мяне ў суд за гэты «антынародны крок», і самае цікавае, што Канстытуцыйны суд тады нават узяў на разгляд гэтую справу. Сёння ж узровень адукаванасці павялічыўся», — спадзяецца Багданкевіч.

Тым не менш, нельга выключаць, што ўказ Аляксандра Лукашэнкі можа справакаваць «набегі» беларусаў на крамы, каб уратаваць свае грошы, скупляючы тавары, як тое было ў 2009, 2011 гадах і пазней. Таму, па вялікім рахунку, трэба было б уладам правесці адукацыйную кампанію сярод сваіх грамадзянаў, каб патлумачыць сапраўдны сэнс і неабходнасць дэнамінацыі. Растлумачыць, што гэтая тэхнічная працэдура толькі спросціць разлікі, а не ўдарыць зноў па кішэнях шарагоўцаў. Адзіны «негатыўны» момант ад будучай дэнамінацыі палягае ў тым, што Беларусь перастане быць краінай суцэльных мільянераў.

Вось толькі ці паверыць насельніцтва чарговым словам чыноўнікаў, хоць і правільным? Пытанне пытанняў. Бо «народзец» ужо прызвычаіўся ўспрымаць словы сваіх правадыроў з дакладнасцю да наадварот.

# За звальненне актывіста — штраф

**Суддзя Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы Вольга Раманюк разгледзела скаргу грамадскага актывіста Рыгора Грыка на дзеянні дырэктара гандлёвай крамы «Mart Inn» Вольгі Борыс і прызнала яе вінаватай.**

Нагадаем, што 24 верасня Рыгор Грык быў звольнены з працы грузчыка ў прыватнай гандлёвай краме «Mart Inn». На працу Рыгор Грык прыйшоў у канцлагерным паласатым адзенні, каб выказаць пратэст супраць парушэнняў правоў працоўных.

«Дырэктар крамы Вольга Борыс прымушала людзей працаваць больш гадзін, чым прадугледжвае працоўнае заканадаўства. Хто выказваў пратэст за адвольную выплату заробкаў без тлумачэнняў, за нявыдачу працоўнага адзення, за адсутнасць умоваў па працы, таго адразу звальнялі. Супрацоўнікаў крамы прымушалі выконваць мноства іншай працы, за якую ім не плацілі грошы. Калі адчынялі краму, то было 45 работнікаў, цяпер — толькі 25. Зразумела, што нагрузка на астатніх рэзка павялічылася, а заробак, наадварот, зменшыўся», — пракаментаваў Рыгор Грык.

Пасля таго, як Рыгор Грык прыйшоў на працу ў паласатым адзенні, краму адразу зачынілі на 2 гадзіны, а Вольга Борыс стала выпіхваць яго з памяшкання. Пры гэтым дырэктар прычыніла грамадскаму актывісту цялесныя пашкоджанні. Судмедэкспертыза, куды Рыгор Грык звярнуўся пасля працы, пацвердзіла факт атрымання цялесных пашкоджанняў. У гэты ж дзень супрацоўнік ГАУС капітан міліцыі Яўген Герасімовіч склаў на Вольгу Борыс адміністрацыйны пратакол за супрацпраўныя дзеянні ў адносінах да Рыгора Грыка.

Грамадскі актывіст выказаў хадайніцтва, каб суд запатрабаваў у адміністрацыі крамы відэаматэрыялы, якія дазволілі б суду аб'ектыўна і хутка разабрацца ў гэтай справе. Але відэаматэрыялы па незразумелых прычынах так і не былі суду прадстаўлены.

Тым не менш, суддзя прызнала дырэктара гандлёвай крамы «Mart Inn» Вольгу Борыс вінаватай у парушэнні ч. 1 арт. 9.1 КаАП (наўмыснае прычыненне цялеснага пашкоджання і іншыя гвалтоўныя дзеянні) і прысудзіла ёй адміністрацыйны штраф у памеры 10 базавых велічынь.

**Паводле spring96.org**

# З Андрэя Бандарэнкі робяць «злоснага парушальніка»

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Вязня сумлення Андрэя Бандарэнку перавялі на два месяцы ў памяшканне камернага тыпу як «злоснага парушальніка рэжыму». Гэта вынікае з ягонага ліста, датаванага 20 кастрычніка.**

На гэты перыяд ён пазбаўлены права на спатканні, на атрыманне пасылак, перадач і нават на тэлефонныя званкі. Па заканчэнні адбыцця спагнання ў ПКТ, ён можа быць пераведзены на турэмны рэжым як асуджаны, «схільны да парушэнняў».

У сваім лісце Бандарэнка піша: «Сітуацыя за апошні час крута змянілася. З 5 кастрычніка я тыдзень правёў у ШІЗА (штрафным ізалятары), а цяпер апынуўся ў ПКТ. За гэты час на мяне навесілі кучу парушэнняў… Такі вось гуманізм у айчыннай пенітэнцыярнай сістэме».

За якія парушэнні яго перавялі ў ПКТ, і наколькі крытычныя і небяспечныя гэтыя парушэнні, Бандарэнка не напісаў.

Тым не менш, вязень перадае прывітанне ўсім, хто ў яго верыць, хто пра яго памятае. Ён вельмі перажывае за лёс Міхаіла Жамчужнага, сузаснавальніка «Платформы інавэйшн», якому пры пераглядзе прысуду ў Вярхоўным судзе дадалі яшчэ адзін год пазбаўлення волі.

Ён вельмі чакае дня вызвалення, калі можна будзе дзейнічаць і прад'явіць рахунак крыўдзіцелям.

# ЖКГ патрэбны рэформы

**У Мінску прайшла прэзентацыя альтэрнатыўнай канцэпцыі развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў Рэспубліцы Беларусь, распрацаваная Інстытутам развіцця і сацыяльнага рынку па замове БХД.**

У абмеркаванні канцэпцыі прынялі ўдзел былы начальнік упраўлення жыллёвай гаспадаркі Мінгарвыканкаму, экс-старшыня рады Рэспубліканскага саюзу ЖКГ, эканаміст Іван Анташкевіч, былы кіраўнік Шклоўскай ЖКГ Рыгор Кастусёў, эксперт Фонду імя Льва Сапегі Андрэй Завадскі і аналітык Інстытута развіцця і сацыяльнага рынку Зміцер Кухлей.

Актыўнымі ўдзельнікамі круглага стала выступілі таксама кіраўнікі абласных радаў аргкамітэту БХД Таісія Кабанчук і Павел Пракаповіч, сустаршыні аргкамітэту БХД Віталь Рымашэўскі, Павел Севярынец і іншыя. Фактычна ўсе выступоўцы адзначылі неабходнасць правядзення рэформаў у сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў бліжэйшыя гады.

Выканаўчы дырэктар Інстытута развіцця і сацыяльнага рынку Зміцер Кухлей адзначыў, што фактычна ўсе бакі — і грамадзяне, і дзяржава — зацікаўленыя ў рэфармаванні ЖКГ, акрамя кіраўніцтва камунальных прадпрыемстваў і чыноўнікаў гэтай сферы: «Ужо сёння беларускія сем'і поўнасцю аплачваюць некаторыя жыллёва-камунальныя паслугі наўпрост са сваіх кашалькоў, а іншыя датуюцца грувасткай і неэфектыўнай сістэме зноў жа праз нашы падаткі. У выніку рэалізацыі распрацаванай інстытутам канцэпцыі мы значна зменшым выдаткі грамадзян на сферу ЖКГ за кошт развіцця канкурэнтных адносін, спрашчэння грувасткай структуры, павелічэння ролі ўласнікаў у кіраванні сваёй нерухомасці і значнага змяншэння сабекошту паслуг».

Пасля прэзентацыі было вырашана працягнуць яе дапрацоўку з улікам меркавання ўдзельнікаў круглага стала.

Запрашаем грамадзян далучацца да абмеркавання альтэрнатыўнай канцэпцыі развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Вашы меркаванні дасылайце на электронны адрас: abcbelarus@gmail.com

**Паводле прэс-рэлізу**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Адмова ад рэформаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Як ні дзіўна, але на фоне падзення ВУП, стагнацыі эканомікі, росту складскіх запасаў, падаючай канкурэнтаздольнасці нашай прадукцыі, зніжэння ўзроўню жыцця насельніцтва ўлады вырашылі, што рэформы праводзіць не трэба. Гэта выдатна ўкладваецца ў тую здагадку, якая ўжо выказвалася, — улада існуе ў паралельным Сусвеце.**



Фота www.usnews.com

З паралельнага Сусвету чыноўнікаў спрабавалі выцягнуць падчас канферэнцыі «Эканоміка Беларусі: зноў перад выбарам», якая прайшла на тыдні ў Мінску. Але з «зоны камфорту» ніхто выходзіць не хоча. І таму ўсё застанецца па-ранейшаму.

Так, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Мікалай Снапкоў падчас размовы на гэтай канферэнцыі заявіў журналістам, што краіны, якія раней правялі структурныя рэформы, сёння растуць. «Тэмпы росту эканомік усіх краін зблізіліся, падзенне цэн на энергарэсурсы пазбавіла многіх дадатковых даходаў. Усе, хто прыстасаваўся да гэтай сітуацыі і правёў рэформы, растуць», — канстатаваў Снапкоў.

Што тычыцца Беларусі, то Снапкоў зазначыў: новую пяцігодку «мы пачынаем з самым высокім узроўнем знешняга доўгу», і таму не можам разлічваць на эканамічны рост за кошт знешняга фінансавання. У апошнія гады Беларусь заставалася сыравінным рэгіёнам: «Наш рост ВУП залежаў ад цаны барэля нафты». Таму, паводле Снапкова, беларускай эканоміцы неабходна адыходзіць ад традыцыйнай мадэлі, структурныя пераўтварэнні павінны быць накіраваныя на павышэнне эфектыўнасці і канкурэнтаздольнасці эканомікі.

Як мы бачым, разуменне неабходнасці структурных рэформаў ва ўладзе ёсць. Ну, прынамсі, нібыта ёсць. Аднак што нам прапанаваў Снапкоў? Дзве рэформы. Гэта раздзяленне функцыі дзяржавы як рэгулятара і ўласніка, а таксама пераход да індыкатыўнай сістэмы планавання.

Хіба гэта тыя рэформы, якія павінны знізіць «сыравінную залежнасць» Беларусі і яе знешні доўг? Хіба гэта тыя самыя структурныя рэформы, якія нам дазволяць узляцець уверх?

На той жа канферэнцыі дарадца Лукашэнкі па эканамічных пытаннях Кірыла Руды патлумачыў, чаму немагчымыя рэформы ў бліжэйшы час. Ён назваў пяць прычынаў гэтага.

Першая: для шырокіх мас неабходнасць рэформ невідавочная, і грамадскага запыту на рэформы няма. Наўрад ці з ім бы пагадзіліся тыя 75% апытаных у верасні НІСЭПД, якія заявілі, што беларуская эканоміка знаходзіцца ў крызісе, і 57,5% тых, хто лічыць, што ў Беларусі трэба праводзіць рэформы. А 52,7% лічаць, што зараз больш важнае змяненне існуючага становішча.

Па словах Рудага, рэформы звычайна праводзяць, калі ў краіне няма грошай. Аднак сказаць, што ў нас няма грошай, нельга, падкрэсліў эканаміст. У тым і справа, што трэба праводзіць рэформы, пакуль ёсць на што іх праводзіць. З голым азадкам эканоміку не вельмі і рэфармуеш.

«Трэцяя прычына, па якой рэформ не будзе ў 2016 годзе: адсутнасць знешніх стымулаў. Вопыт краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы паказвае, што яны ішлі на рэформы, калі ўступалі ў Еўрапейскі саюз. Але калі яны апынуліся там — рэформы спыніліся», — сказаў Руды. Вельмі сумнеўны падыход. Вопыт краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы паказвае, што, напрыклад, балючыя рэформы 1990-х гадоў, якія якраз і вывелі гэтыя краіны на мяжу ўваходжання ў ЕС, праводзіліся без «аглядкі» на ЕС, а выключна дзеля дабрабыту свайго народа.

І толькі адна прычына Рудага рэальная. Гэта адсутнасць ва ўладзе спецыялістаў, якія маглі б правесці рэформы. «Хто ў нас на дзяржаўнай службе мае вопыт працы па-рыначнаму, па-заходняму? Заходні касцюм трэба адрозніваць ад заходніх мазгоў», — сказаў Руды. І дадаў, што нават калі гэтыя людзі і знойдуцца, то незразумела, як яны будуць «спалучацца з сілавікамі, гаспадарнікамі, якія з'яўляюцца выхаванцамі савецкай школы».

То бок, фактычна ён прызнаў, што правядзенне рэформаў залежыць ад кіраўнікоў краіны. А гэтыя кіраўнікі не толькі не жадаюць праводзіць такія рэформы: яны яшчэ і не допускаюць да прыняцця рашэнняў тых, хто мог бы заняцца рэфармаваннем краіны.

Вось тут і вылезла наўпростая сувязь эканомікі і палітыкі. Калі ўлада не змяняецца ўжо 20 гадоў, калі ў яе не прыходзяць новыя людзі, новыя мазгі, калі ў ёй застаюцца людзі, напалоханыя «рэформамі 90-х» і гэтак далей — ніякага развіцця не будзе.

У той жа час, Руды пералічыў тры моманты, якія, на ягоную думку, павінны падштурхнуць краіну да рэформаў. Гэта ўцягванне грамадскасці ў правядзенне рэформ (лічбы НІСЭПД наконт грамадскіх настрояў глядзіце вышэй). Гэта стымуляванне запыту на рэформы сярэдняга класа, якога ў Беларусі, дзякуючы высілкам улады, амаль няма. І «наяўнасць адпаведнага запыту з боку палітычнай эліты».

А вось гэтага запыту, як мы бачым па словах Снапкова, пры ўсім разуменні сітуацыі, у «палітычнай эліты» няма. Таму што яна жыве ў паралельным Сусвеце, дзе ўсё добра, і галоўнае — гэтую дабрыню захаваць.

Канчатковы адказ на пытанне, ці адбудуцца рэформы, Руды параіў шукаць у афіцыйных дакументах і выступах кіраўніка дзяржавы. І пры гэтым ён дадаў, што ёсць «маса рацыянальных і ірацыянальных фактараў», што ўплываюць на гэтае рашэнне.

Асабіста мне спадабалася гэтая фраза пра «ірацыянальныя фактары». Падаецца, у нашай краіне гэтым можна патлумачыць усё, што адбываецца насуперак логіцы. Ірацыянальны фактар, страхі, фобіі — і ўсё зразумела. Шкада толькі, што людзі з «ірацыянальным фактарам» ідуць не да псіхолага, а ў Дом урада.

Выратаваць краіну, лічыць Руды, можа толькі адно. «Адназначна адно: пры яўным пагаршэнні сітуацыі рэакцыя сапраўды будзе. Пры цэнтралізацыі рашэнняў хуткая рэакцыя з боку ўлады можа мець розныя кірункі і розныя наступствы», — лічыць Руды.

То бок, каб навучыцца ўставаць, нам усё ж трэба ўпасці. Пытанні два: наколькі глыбокім і балючым будзе гэтае падзенне? І ці азначае гэта, што ўрадаўцы нас свядома падштурхоўваюць да прорвы: каб ужо ўсе канчаткова зразумелі неабходнасць рэформ?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Аляксандр Мілінкевіч



**Ліст, напісаны беларускімі апазіцыянерамі ў ЕС, стаў сенсацыйным яшчэ і тым, што яго адмовіўся падпісаць экс-кандыдат у прэзідэнты і кіраўнік Руху «За Свабоду».**

Прычым афіцыйнае выданне Еўрасаюза падало гэта так, нібыта Аляксандр Мілінкевіч не падпісаў гэты зварот, таму што ён «пакінуў палітыку».

Аказваецца, гэта не зусім так. На пытанне пра гэта «Радыё Свабода» палітык адказаў: "Я такіх заяваў не рабіў». «Я проста лічу, што формы палітычнай дзейнасці могуць быць самыя розныя. На гэтым этапе, калі выбары ператвараюцца ў суцэльны фарс і апазіцыя ў гэтым удзельнічае, я не думаю, што выбары — гэта адзіная форма сур'ёзнай барацьбы за Беларусь. Вось для сябе я зараз выбіраю працу ў адукацыйных, асветніцкіх і культурніцкіх праектах. Мне гэта цікава. Гэта не значыць, што я перастаў займацца і цікавіцца палітыкай. Але цяпер я пераключыўся на гэтыя праекты, а не на праекты, звязаныя з псеўдавыбарамі».

## Дзмітрый Калечыц



**Намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка зрабіў заяву, ад якой звычайна беларусы бягуць у абменнікі.**

Калечыц паведаміў, што жнівеньскае паскоранае падзенне рубля больш чым на 10% выклікана знешнімі фактарамі, курс беларускага рубля зараз блізкі да раўнаважнага, а перадумовы для яго паскоранай дэвальвацыі ў чацвёртым квартале прынцыпова адсутнічаюць.

«Валютныя рынкі вельмі адчувальныя не толькі да аб'ектыўных фактараў попыту і прапановы, але і да суб'ектыўных чаканняў, настрояў, якія могуць рэзка змяняцца», — прызнаў Калечыц.

Ён адзначыў, што знешні шок у жніўні гэтага года ў выглядзе рэзкай карэкціроўкі курсу расійскага рубля на фоне цаны на нафту выклікаў кароткатэрміновы спекулятыўны ціск на валютным рынку. Зніжэнне курсу беларускага рубля і своечасовая рынкавая карэкціроўка дапамагла знізіць негатыўны ўплыў гэтых фактараў на эканоміку краіны.

Паводле разлікаў Нацбанка Беларусі, рэальны курс беларускага рубля зараз знаходзіцца паблізу свайго раўнаважкага ўзроўню, «што сведчыць аб аптымальнасці курсавой палітыкі».

Пытанне толькі адно: ці дастатковая ў Калечыца пасада, каб, пасля ягоных словаў «дэвальвацыі не будзе» і «яе перадумовы адсутнічаюць», беларускі рубель зноўку абваліўся?



## Дзмітрый Герчыкаў

**Прэс-аташэ баскетбольнага клуба «Цмокі-Мінск» шмат тлумачыў сітуацыю з іх афіцыйным сайтам, і ў некаторым сэнсе адкрыў віртуальныя курсы беларускай мовы.**

Справа ў тым, што баскетбольны клуб адмовіўся ад рускамоўнай версіі афіцыйнага сайта, пакінуўшы толькі беларускую і англійскую версіі. Але, па-першае, некаторыя матэрыялы па-ранейшаму застаюцца на рускай мове.

«Мы ставім передрукі з гіперспасылкамі на арыгінальную крыніцу з захаваннем мовы, зразумела, так патрабуюць правы капірайтынгу, і мы падкрэсліваем, што гэта не наш матэрыял. Мы нічога нікому не забараняем, ёсць ангельская версія, калі заўгодна ізноў жа. Мы ідзём рэгламентам адзінай лігі ВТБ і ФІБА», — распавёў Дзмітрый Герчыкаў «Прессболу».

Па-другое, на форуме «Прессбола» каментатары «наехалі» на сайт клуба з-за перакладу на беларускую: «Вось, дарэчы, «Красны Акцябр», гэта што такое? :) Чаму не «Чырвоны Кастрычнік»?

«Чаму «Красны Акцябр», а не «Чырвоны Кастрычнік»? Вы не паверыце, але перш чым выносіць такі пераклад, мы кансультаваліся і ў Інстытуце беларускай мовы, і на кафедры беларусістыкі ў БДУ, і для даведкі і ачысткі сумлення нават педагагічны ўніверсітэт задзейнічалі. Дык вось, брэнды не перакладаюцца пры адаптацыі, а застаецца калькаваны варыянт. Гэта афіцыйная норма, прапісаная ў нарматыўных дакументах», — навучыў Герчыкаў.

а | Азбука паліталогіі

# Марк Твэн і беларуская мадэль



Сяргей НІКАЛЮК

**Грамадства, якое жыве толькі сённяшнім днём, можа разам з ім і знікнуць.**

Упаеме Барыса Пастэрнака пра Леніна «Высокая хвароба» ёсць выдатны радок: *«Он управлял теченьем мысли и только потому страной»*. Г.зн. правадыр сусветнай рэвалюцыі кіраваў не рэальнымі падзеямі, а іх адлюстраваннем у галовах людзей.

А цяпер перанясемся з рэвалюцыйнага савецкага мінулага ў сучасную Беларусь. Ці здольны адзіны палітык (АП) кіраваць рэальнымі падзеямі? Возьмем канкрэтны прыклад: згадаем вынікі мадэрнізацыі прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай галіны, і дапаможа нам у гэтым прэс-рэліз нарады ад 22 кастрычніка. Абмяжуюся толькі адной цытатай: «Спадзяюся, на гэтым узроўні такая размова апошняя. Мы ўклалі немалыя сродкі. І які вынік? І што будзем рабіць далей?»

Адказ на першае пытанне можна знайсці ў афіцыйнай статыстыцы: за студзень-жнівень гэтага года да аналагічнага перыяду 2014-га вытворчасць вырабаў з дрэва скарацілася на 3,5%. Адказ на другое пытанне прыведзены ў прэс-рэлізе на сайце АП: «Па выніках нарады прэзідэнт прыняў рашэнне аб перадачы актываў базавых прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі Банку развіцця». У перакладзе з эзопавай мовы на побытавую гэта азначае, што страты мадэрнізаваных прадпрыемстваў вырашана пагасіць за кошт падаткаплацельшчыкаў.

Што тычыцца кіравання *«теченьем мысли»*, то за АП можна не хвалявацца. Вынікі выбарчай кампаніі наглядна прадэманстравалі гатоўнасць беларускай «большасці» дэфіцыт хлеба кампенсаваць празмернасцю відовішчаў. Таму не варта здзіўляцца росту электаральнага рэйтынгу АП з 38,6% у чэрвені да 45,7% у верасні (НІСЭПД).

## Каго ратуе выратавальнік?

Нямецкі філосаф Фрыдрых Ніцшэ вызначаў тры тыпы гісторыі. Ёсць манументальная гісторыя, якая ганарыцца дзеямі продкаў. Ёсць антыкварная гісторыя, якая вывучае пятліцы на палкавой форме. І ёсць крытычная гісторыя, якая займаецца ўчынкамі людзей і іх вынікамі.

Нескладана здагадацца, якога тыпу гісторыі аддае перавагу АП. Беларусь, згодна з узаконенай ім версіяй, — краіна з гераічным мінулым, і гэта мінулае замяняе нам будучыню. Не выпадкова свята беларускай дзяржаўнасці прымеркавана да дня вызвалення Мінска.

Беларускае грамадства і палітычная эліта не гатовыя глядзець уперад. Яны баяцца будучыні, таму сацыяльная энергія сыходзіць на вырашэнне задач выжывання. На выбудоўванне стратэгій развіцця ні часу, ні сіл не застаецца. Уся надзея на тое, што «нешта будзе», трэба толькі перачакаць цяжкія часы.

Галоўнай умовай свайго палітычнага выжывання на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў АП лічыў рост сярэдняй зарплаты ў доларавым эквіваленце. У 1994 годзе ён стартаваў у вялікую палітыку з 20 «зялёных», а праз 19 гадоў, у жніўні 2013-га, былі зафіксаваны гістарычны максімум — 622 долара. Але да верасня бягучага года сярэдняя зарплата спікіравала да 388 долараў, перакрэсліўшы гады ўпартай працы. Такі прамежкавы вынік функцыянавання беларускай мадэлі.

У якасці каментара прывяду фрагмент з апошняй перадвыбарнай праграмы АП: «Беларусь не застыне на месцы — яна энергічна пойдзе наперад». Залогам гэтага руху выступяць занятасць, экспарт, інвестыцыі. Чаму гэтае шаноўнае трыа ніяк не выявіла сябе ў чацвёртай пяцігодцы — перадвыбарчая праграма замоўчвае.

На першых прэзідэнцкіх выбарах большасць беларусаў успрыняла будучага АП у якасці выратавальніка, чым і варта растлумачыць яго пераканаўчую перамогу над кандыдатам ад улады. Але пасля прызнання Канстытуцыйным судом амаль двух дзясяткаў рашэнняў «выратавальніка» неканстытуцыйнымі, яму давялося накіраваць сваю кіпучую энергію на выратаванне не эканомікі, а ўласнай улады.

Тое, што спачатку здавалася часовым, у поўнай адпаведнасці з прыказкай, стала пастаянным. Але чалавек, які жыве толькі сучасным, сённяшнім днём, рызыкуе знікнуць разам з ім. Прыгожа сказана, пагадзіцеся. Шкада, не сам прыдумаў, а запазычыў гэтую думку ў іспанскага пісьменніка Хуана Гайтысола.

На жаль, адным АП колькасць беларусаў, якія жывуць сённяшнім днём, не абмяжоўваецца. Ці дасягнутая крытычная маса такіх індывідаў у рэспубліцы-партызанцы? Адказу на гэтае пытанне ў мяне няма. Але калі адказ станоўчы, то разам з гэтым можа знікнуць і Беларусь.

## Урок не пайшоў на карысць

У канцы кастрычніка АП ва ўласцівай яму манеры выказаўся на адрас Святланы Алексіевіч: «Скажу зноў жа пра нашых асобных «творцаў», творчых асобаў, нават лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі, якія не паспелі яшчэ яе атрымаць, выехалі за межы краіны і пастараліся цэбар бруду выліць на сваю краіну».

У адказ пісьменніца заявіла, што ніколі не выступала з крытыкай у дачыненні да беларускага народа, а толькі каментавала палітычныя рашэнні кіраўніка дзяржавы.




Хто мае рацыю? Я мяркую, што кожны па-свойму. Беларусь — не Вялікабрытанія, у якой мірна суіснуюць Урад Яе Вялікасці і Апазіцыя Яе Вялікасці. У Беларусі любая нязгода з афіцыйнай лініяй разглядаецца як злачынства. Гэта не азначае, што такога кшталту злачынцаў адразу ж пацягнуць у вязніцу, але для апазіцыйна думаючых грамадзян дзейнічае негалосная «забарона на прафесіі», і спіс забароненых прафесій вялікі.

У нас любы замах на рэжым успрымаецца як замах на краіну. Пры гэтым неабходна памятаць, што беларускі рэжым належыць да так званых «персаналісцкіх рэжымаў». АП атаясамлівае сябе з дзяржавай і народам. Ён — адзіны выразнік яго інтарэсаў. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што яго асабістыя апаненты праходзяць у нас як «пятая калона» і «ворагі народа». Натуральна, крытыкуюць яны АП небескарысліва, а за «трыццаць срэбранікаў», якія ім на рэгулярнай аснове плацяць заходнія «гаспадары».

У чарговы раз адкрыем перадвыбарчую праграму АП. Гэта праграма чалавека з чорна-белым мысленнем. Пры ўсім багацці і разнастайнасці сучаснага жыцця яна прадугледжвае ўсяго два шляхі развіцця Беларусі: «Адзін шлях наперад — да захавання стабільнасці і парадку, свабоды і незалежнасці. Гэта шлях адзінства і згоды, развіцця і прагрэсу. Гэта шлях міру і стварэння. Іншы шлях назад — да смуты і хаосу «дзевяностых», бандыцкага капіталізму і падзелу ўласнасці, да паслаблення дзяржавы і страты незалежнасці. Гэта шлях рэвалюцый, крыві і вайны».

Сярод апазіцыі сёння існуюць і прыхільнікі супрацоўніцтва з уладай. Прапаную ім уважліва перачытаць выказванне пра два шляхі і на гэтай тэарэтычнай аснове адшукаць прастору для сумеснай дзейнасці. Асабіста ў мяне не атрымалася, бо калі я прымаю першы шлях, дык у чым жа тады мая апазіцыйнасць? Калі другі — дык тут і каментаваць няма чаго.

Самы час прыгадаць закон Эшбі (закон неабходнай разнастайнасці): «Адэкватнае кіраванне можа быць забяспечана толькі ў тым выпадку, калі разнастайнасць сродкаў кіраўніка як мінімум не меншая, чым разнастайнасць кіраванай ім сітуацыі».

Камуністы 70 гадоў спрабавалі даказаць яго безгрунтоўнасць, адказваючы на пастаяннае ўскладненне жыцця ўзмацненнем цэнтралізацыі, г. зн. спрашчэннем. Чым скончыліся іх намаганні — добра вядома. Але ўрок не пайшоў на карысць. АП ужо два дзесяцігоддзі выступае ў ролі годнага прадаўжальніка справы сваіх папярэднікаў. Таму ў «беларускай мадэлі эканамічнага развіцця» (такая яе поўная назва) з рэгулярнай пастаяннасцю ўзнікаюць праблемы, што і дазволіла Беларусі ўпэўнена замацавацца ў прызавой тройцы самых бедных краін Еўропы. Але яшчэ не вечар.

## Выдатнае прызнанне

З чаго пачыналі практычна ўсе сусветныя лідары эканамічнага росту ў другой палове XX стагоддзя? З усведамлення сваёй адсталасці. «Без такога разумення мадэрнізацыя немагчымая, — адзначае эканаміст Уладзіслаў Іназемцаў. — Усе мадэрнізаваныя грамадствы — Паўднёвая Карэя пасля паразы ў вайне, Кітай пасля Культурнай рэвалюцыі, Бразілія пасля ваеннай дыктатуры — былі краінамі, якія спазналі гістарычны крах. У іх сітуацыі азірацца назад было жудасна. Мы ж ідзем наперад з павернутай назад галавой, шукаючы ўзоры гераізму ў мінулым, узоры ідэальнай будучыні — у савецкім часе і г. д. Такім чынам, мы самі сябе адразаем ад магчымасці прагрэсу».

На памылках вучацца. Дурні — на сваіх. Разумныя — на чужых. Але ёсць яшчэ трэцяя катэгорыя грамадзян, якая навучанню не падлягае ўжо хаця б таму, што не здольная адрозніваць правільныя рашэнні ад памылковых. Яны з упартасцю, вартай лепшага прымянення, спрабуюць атрымаць новы вынік за кошт паўтарэння адных і тых жа дзеянняў.

Беларуская мадэль, паводле прызнання яе галоўнага архітэктара, «нараджалася з жыцця, з нашага вопыту. Яе дыктавала народная мудрасць і здаровы сэнс».

Выдатнае прызнанне. Наш вопыт — гэта ў лепшым выпадку вопыт моцных савецкіх гаспадарнікаў. Веды пра рынкавыя адносіны яны маглі запазычыць хіба што з раманаў так званых «прагрэсіўных заходніх пісьменнікаў». Напрыклад, з трылогіі амерыканца Тэадора Драйзера «Фінансіст» — «Тытан» — «Геній» або апавяданняў Марка Твэна і Джэка Лондана.

АП падзяляе меркаванне тых беларусаў, якія «кажуць пра брэжнеўскія часы — гэта былі лепшыя часы Савецкага Саюза». Лепшай ілюстрацыяй народнай мудрасці і здаровага сэнсу, мабыць, і не прыдумаць. Цікава, калі брэжнеўскія часы вернуцца, сам АП будзе атаварвацца ў спецкрамах пры Палацы Незалежнасці або пасля працы ў шматгадзінных чэргах на агульных падставах? У апошняе мне нешта мала верыцца.

Беларуская мадэль не прапісаная ў падручніках. Так лічыць АП, акрамя таго, ён упэўнены, што гэтая мадэль «дазваляе абараніць простага чалавека не толькі ў спрыяльных, але і ў складаных эканамічных умовах». Таму «адступлення ад гэтай мадэлі не будзе».

Мадэлі, у якіх дзяржавы абвяшчаюць сябе абаронцам простага чалавека, у паліталогіі прынята называць патэрналісцкімі. Падручнікаў паліталогіі з падрабязным апісаннем патэрналісцкай дзяржавы і яе недахопаў у Беларусі дастаткова. Ёсць гэтыя кнігі і ў Прэзідэнцкай бібліятэцы. Тым, хто не ведае, дзе яна знаходзіцца, я магу падказаць адрас.

# Сталінізм не павінен мець шанцаў

Сяргей ПУЛЬША

**Пасля амаль дзевяці гадоў працы Грамадскі трыбунал па разгляду злачынстваў сталінізму ў Беларусі вынес абвінаваўчае заключэнне.**




Фота www.novostey.com

Вердыкт грунтуецца на дакументах дзяржаўных і асабістых архіваў, матэрыялах архіўна-следчых спраў, сведкавых паказаннях ахвяр рэпрэсій, іншых пісьмовых і выяўленчых крыніцах, а таксама на матэрыялах грамадскага трыбунала па вывучэнні злачынстваў сталінізму ў Беларусі ў 1920-х — першай палове 1950-х гадоў.

Камітэт складаўся з 33-х чалавек — гісторыкаў, юрыстаў, грамадскіх дзеячаў, дзеячаў культуры і іншых неабыякавых асобаў.

У абвінаваўчым заключэнні падкрэсліваецца, што маштаб рэпрэсій у СССР ахапіў усе рэгіёны і ўсе пласты грамадства, а палітычна матываваныя прысуды і рашэнні выносіліся як судовымі, так і пазасудовымі органамі, і адрозніваліся невераготнай жорсткасцю.

Як сведчыць абвінаваўчае заключэнне, паводле афіцыйных дадзеных, было рэпрэсавана каля 600 тысяч чалавек (згодна падлікаў незалежных даследчыкаў — звыш 1,4 мільёна жыхароў Беларусі). Больш за 500 тысяч былі расстраляныя, закатаваныя ў засценках НКВД, загінулі ў ГУЛАГу. Але, акрамя наўпроставых расстрэлаў, пад рэпрэсіі патрапіла значна больш людзей.

Напрыклад, рэалізацыя ідэі татальнай калектывізацыі прывяла не толькі да голаду, у выніку якога былі згубленыя сотні тысяч жыццяў, але і да масавага рабаўніцтва і знішчэння сялянства. У БССР «раскулачылі» больш за чвэрць мільёна чалавек, давялі да галечы і разбурылі не менш за 80% сялянскіх гаспадарак. У выніку гэтай палітыкі былі падарваныя асновы ўсёй сельскагаспадарчай вытворчасці Беларусі.

Сталінскія рэпрэсіі былі «кругавой парукай», якой савецкае кіраўніцтва імкнулася павязаць увесь народ. Па ўсёй краіне праходзілі сходы, на якіх людзей прымушалі бурна апладзіраваць публічнай хлусні пра выкрытых і абясшкоджаных «ворагаў народа». Дзяцей змушалі адракацца ад арыштаваных бацькоў, жонак — ад мужоў. Гэта мільёны разбітых сем'яў. Злавесная абрэвіятура «ЧСЗР» — «член сям'і здрадніка Радзімы», з'яўлялася падставай заключэння ў адмысловыя лагеры ўдоваў, чые мужы былі пакараныя па рашэнні Веннай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР. Гэта мільёны сірот, у якіх скралі дзяцінства.

Да істотнага разбурэння нацыянальных каштоўнасцяў, рэлігіі і культуры большасці беларускага народа прывяла палітыка генацыду ў нацыянальна-культурнай сферы.

Вывучаныя трыбуналам матэрыялы ўтрымліваюць пераканаўчыя доказы наяўнасці яшчэ аднаго злачынства — масавага забойства органамі НКУС на тэрыторыі Беларусі не менш як 4000 афіцэраў польскага войска і больш за 7000 чалавек грамадзянскага насельніцтва.

«Вынікі рэпрэсіўнай палітыкі савецкай улады трагічныя: за кароткі гістарычны перыяд кожны восьмы жыхар Беларусі апынуўся за кратамі ці за калючым дротам, кожны пяты быў дыскрымінаваны, пазбаўлены грамадзянскіх правоў. У шэрагу населеных пунктаў з прычыны сталінскага тэрору загінула больш жыхароў, чым за перыяд нацысцкай акупацыі», — гаворыцца ў абвінаваўчым заключэнні.

Грамадскі трыбунал канстатаваў, што «вывучаная доказная база пацвярджае вінаватасць Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і створанай ёю сістэмы карных органаў (ЧК-ВЧК-ГПУ-ОГПУ-НКВД-МГБ-КГБ) у арганізацыі і ажыццяўленні масавых рэпрэсій супраць свайго народа і замежных грамадзян».

> **Улада, якая не хоча прызнаваць злачынствы сваіх папярэднікаў, асуджаная на іх паўтарэнне**

Удзельнікі трыбуналу лічаць, калі наша дзяржава плануе развівацца, яна павінна працаваць над ушанаваннем памяці ахвяраў палітычных рэпрэсій. Прынамсі, правесці поўную і канчатковую рэабілітацыю ахвяр палітычнага тэрору перыяду 1920–1950-х гадоў, аднавіць ільготы ахвярам палітычных рэпрэсій і членаў іх сем'яў і ўзвесці агульнанацыянальны помнік загінулым, які быў бы пастаўлены дзяржавай і ад імя дзяржавы.

Таксама прапануецца стварыць агульнанацыянальны Цэнтр даследавання савецкага тэрору, які адпавядаў бы па свайм статусе ўзроўню маштабаў трагедыі, і зрабіць яго метадычным і навуковым цэнтрам музейнай працы па гэтай тэме.

Трыбунал заклікае далучыцца да ініцыятывы Латвіі, Літвы, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, Украіны, Грузіі, Румыніі і Балгарыі аб стварэнні міжнароднай установы па расследаванні злачынстваў камунізму і прыцягненні вінаватых да адказнасці.

«Сталінізм не павінен мець шанцаў на адраджэнне. Улада, якая не можа ці не хоча адкрыта прызнаць злачынствы і памылкі сваіх папярэднікаў, асуджаная на іх паўтарэнне», — канстатуецца ў заключэнні.

Абвінаваўчы вердыкт сталінізму будзе разасланы ва ўсе дзяржаўныя органы, грамадскія арганізацыі і палітычныя партыі. Таксама рыхтуецца зварот у Генеральную пракуратуру з патрабаваннем узбуджэння крымінальнай справы па сукупнасці фактаў, выкладзеных у вердыкце.

Акрамя членаў Грамадскага трыбунала прапанаваны дакумент могуць падпісаць як асабіста, так і ў электронным выглядзе ўсе грамадзяне Беларусі. Папяровы варыянт можна падпісаць па адрасе Чарнышэўскага, 3. Электронны — на сайце *kurapaty.info/be.*

# Дакументы не хлусяць

Лявон БАРШЧЭЎСКІ

**У прыватным смаленскім выдавецтве «Інбелькульт» з друку выйшаў 800-старонкавы том пад назвай «Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце XII склікання: дакументы, факты, каментары», укладзены кандыдатам гістарычных навук Аляксандрам Кур'яновічам.**




Як чалавек, прозвішча якога ў кнізе згадваецца больш за сорак разоў, натуральна, я не мог не пазнаёміцца са зместам гэтай капітальнай публікацыі. Адразу хачу адзначыць, што ўкладальнік правёў велізарную працу, знайшоў у архівах і падшыўках перыядычных выданняў дакументы, у тым ліку фатаграфіі, часам ужо і падзабытыя, за што ён заслугоўвае безумоўнай павагі.

Публікацыя як бы дадае дадатковай вагі чатыром кнігам майго калегі па тым Вярхоўным Савеце, журналіста Сяргея Навумчыка («Сем гадоў Адраджэння», «Дзевяноста першы», «Дзевяноста чацвёрты» і «Дзевяноста пяты»). Толькі Аляксандр Кур'яновіч паставіў дакументы ў цэнтр сваёй публікацыі. А, як вядома, дакументы не хлусяць.

Кніга развейвае шэраг міфаў, якія пашыраліся пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі не толькі афіцыйнай беларускай прапагандай. Дакументы дазваляюць расставіць кропкі над «і» ў пытанні прыняцця Вярхоўным Саветам Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце ў ліпені 1990 года. У кнізе прыводзіцца тэкст праекту гэтай Дэкларацыі, які, раней за ўсё, быў падрыхтаваны Беларускім народным фронтам, тэксты выступаў прадстаўнікоў Апазіцыі БНФ па найбольш прынцыповых палажэннях гэтага дакумента, якія былі пазней праігнараваныя і забытыя, у тым ліку і Станіславам Шушкевічам, пра што сведчаць некаторыя пазнейшыя інтэрв'ю апошняга.

Наогул жа, пры адборы дакументаў Кур'яновіч выразную перавагу аддаў дакументам эканамічнага і агульнаграмадскага характару, распрацаваным прадстаўнікамі Апазіцыі БНФ — праектам Праграмы эканамічнай рэформы, Кодэкса «Аб зямлі», законаў «Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы», «Аб уласнасці на зямлю», «Аб Кантрольнай палаце», «Аб міліцыі (паліцыі)», «Аб барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю», «Аб рэферэндуме», дэкрэта «Аб уладзе», парламенцкіх пастаноў «Аб стварэнні ўпраўлення па выпуску дзяржаўных знакаў», «Аб рэарганізацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і некаторых іншых. Ужо гэта цалкам разбівае запушчаны міф, нібыта «ў Вярхоўным Савеце апазіцыя займалася збольшага пытаннямі беларускай мовы і беларускай культуры».

Але ёсць і недахопы, якія, натуральна, можна было б выправіць пры перавыданні. Па-першае, адбор законапраектаў і выступаў пры іх абмеркаванні мае налёт суб'ектыўнасці. Напрыклад, у той час былі высока ацэненыя экспертамі, у тым ліку міжнароднымі, законапраекты «Аб уласнасці», «Аб банках і банкаўскай дзейнасці», «Аб нетрах» — стратэгічна важныя для аднаўленай беларускай дзяржавы — і вельмі шкада, што ў зборы Аляксандра Кур'яновіча месца для іх не знайшлося. Як не знайшлося месца і для законапраекта «Аб грамадзянстве», які, бадай што, як ніводзін аналагічны дакумент у рэспубліках тагачаснага СССР, улічваў і нацыянальныя інтарэсы Беларусі, і гарантаваныя міжнароднымі дакументамі правы чалавека. Як кіраўніку адпаведнай працоўнай групы Апазіцыі БНФ мне давялося прадстаўляць гэты законапраект на другой сесіі Вярхоўнага Савета ў кастрычніку 1990 года. Тады ён быў правалены камуністычнай большасцю беларускага парламента, але не прайшло і года, як асноўныя яго палажэнні былі ўсё ж такі прынятыя ў складзе Закона «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь». Не змешчаныя ў зборніку і праекты законаў і пастаноў, датычных стварэння беларускай арміі, Нацыянальнай гвардыі і памежнай службы, праекты рэфармавання падатковай сістэмы, увядзення беларускай грашовай адзінкі, дакументаў аб пераадоленні наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і інш.

> **Было б цікава, каб сёння нехта выдаў тэксты выступаў Лукашэнкі ў ВС XII склікання, каб чытач мог параўнаць іх з адпаведнымі прамовамі дэпутатаў Апазіцыі БНФ**

Цяпер некалькі слоў адносна аўтарскіх каментароў да дзейнасці Апазіцыі БНФ у цэлым і да распрацаваных ёй дакументаў. Не-не, ды ўзнікае адчуванне, што аўтар каментара робіць аглядку на тое, што некаму ў сённяшняй кіроўнай эліце гэтая кніга можа не спадабацца. Таму не раз можна сустрэць агаворкі кшталту «гэта адзначалася палітычнымі апанентамі, у тым ліку і Аляксандрам Лукашэнкам». Было б, дарэчы, цікава, каб сёння (без купюр і рэдагавання!) нехта ўзяў ды выдаў тэксты ўсіх выступаў Аляксандра Лукашэнкі ў Вярхоўным Савеце XII склікання, каб неабазнаны — асабліва малады — чытач мог параўнаць узровень гэтых прамоў з адпаведнымі прамовамі дэпутатаў Апазіцыі БНФ.

TV

## 15 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.25** Меладрама «Там, дзе ёсць шчасце для мяне».
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Гісторыя рамонту.
**10.20** 50 рэцэптаў першага.
**11.00** XXL WOMAN TV.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны.
**12.35** Каробка перадач.
**13.10** Зона Х.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Меладрама «Жонка Шцірліца».



**17.20** Камедыйная меладрама «Знахарка».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.35** Навіны надвор'я.
**22.55** Меладрама «Я буду побач».
**00.40** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера-2».

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.00** Нашы навіны.
**12.15** Мастацкі фільм «Фліка-2».
**13.55** Да юбілею актрысы. Людміла Гурчанка.
**14.55** Мастацкі фільм «Каханая жанчына механіка Гаўрылава».



**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Каханая жанчына механіка Гаўрылава».
**17.00** Цюцелька ў цюцельку.
**20.00** Контуры.
**21.05** Голас.
**21.20** Справа прынцыпу.
**23.20** Мастацкі фільм «Метад».

### ТВ

**06.05** Камедыйны серыял «Афрамасквіч».
**06.55** Сардэчна паскардзіцца.
**07.15** Аўтапанарама.
**07.40** «Задыяк».
**10.20** Чысты праца.
**11.00** Вялікі сняданак.
**11.40** Культурная сталіца. Брэст.
**12.10** «Леапард».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Леапард».
**15.40** Вадзіць па-руску.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Дарагая перадача.
**17.45** «Ад 180 і вышэй».
**19.30** Тыдзень.
**20.25** Ваенная таямніца.
**23.35** Дакументальны праект.
**23.25** «Леапард».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» Італія.
**08.10** Серыял «Хто ў доме гаспадар?».
**10.05** «Арол і рэшка». Пазнавальнае шоў (Украіна).
**11.10** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Пяцёрачка.
**12.25** Зразумець і абясшкодзіць.
**13.05** Серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**15.05** Фільм «Персі Джэксан і выкрадальнікі маланак».
**17.10** Фільм «Я, робат».
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда 2» (Расія).
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.20** Хачу ў тэлевізар!
**23.25** Меладрама «Чужаземка».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1993 г.).
**09.40** «Чырвоная палатка». Прыгодніцкая драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1969 г.).
**12.15** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Алесь Чумакоў, Павел Сляпцоў, Алена Маслоўская.
**12.55** «Калейдаскоп».
**13.05** «Наперад у мінулае».
**13.35** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**14.25** «Справы фамільныя». «Трамвайны марш».
**14.55** «Музеі Беларусі». Музей Беларускага Палесся.
**15.20** «Аляксандр Варашыла. Свой голас». Дакументальны фільм.
**16.00** «Гітара па крузе». Яўген Пальцаў, сцэнарыст, паэт.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.15** «Чалавек ніадкуль». Эксцэнтрычная камедыя (СССР, 1961 г.).
**18.35** «Дзень радыё». Дакументальны фільм.
**19.00** «Табар ідзе ў неба». Рамантычная драма (СССР, 1976 г.).
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Лістапад-2015». Тэлеверсія закрыцця XXII Мінскага міжнароднага кінафестывалю.
**21.30** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1993 г.).
**22.50** Леанід Млечын прадстаўляе. «Савецкі космас: чатыры каралі». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**23.45** «Калейдаскоп».
**00.00** Перерыв в вещании.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Баскетбол. НБА. Мілўокі - Кліўленд.
**09.30** Хакей. Металург - Нёман.
**11.25** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Астана - Цмокі.
**13.05** Хакей. Дынама (Мінск) - Дынама (Масква).
**15.00** Гандбол.
**16.25** Авертайм.
**16.55** КХЛ. Спартак - Сочы.
**19.20** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Лакаматыў-Кубань - Ніжні Ноўгарад.
**21.00** Самба. Чэмпіянат свету.
**22.20** PRO спорт. Навіны.
**22.50** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**23.30** Баскетбол. НБА. Мінесота - Мэмфіс.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Ліс Леон, мультсерыял.
**07.50** Букаландыя, мультсерыял.
**08.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.15** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.30** Два на два (тэледыскусія).
**10.05** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.30** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніца Францішка Багушэвіча.
**10.45** Ліс Леон, мультсерыял.
**10.55** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**11.00** Букаландыя, мультсерыял.
**11.25** Машына зменаў, тэлесерыял.
**12.05** Мова нанова: Дзеткі.
**12.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.05** Рамантычны канцэрт: ч. 2.
**13.25** Забытыя ў Пхеньяне, дакументальны фільм.
**14.25** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.50** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**15.25** Людскія справы: Выбарчае выданне.
**16.00** Чужая, м/ф.
**18.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.25** Менск ад золку да змяркання, дакументальн фільм.
**19.05** Невядомая Беларусь: Зоська Верас. 1892–1991, д/ф.
**19.45** Сведкі: Дзяды.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** «Google» і Усясветны мозг, д/ф, 2013 г., ЗША.
**22.05** Кінаклуб: «У тумане».
**22.15** У тумане, м/ф.
**00.25** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**01.10** «Браты Клічко», дакументальны фільм.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА [ ] НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ [ ]

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка [ ] уведомление [ ] простое [ ] заказное [ ] электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 625-57-51.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# Новы Бонд — руды, гей, чарнаскуры, жанчына?

Алег НОВІКАЎ

**Прэм'ера чарговай серыі бандыяны выклікала дэбаты наконт неабходнасці змянення іміджу агента 007.**



Фота www. intercon.nl

Ужо зараз можна казаць пра тое, што «Спектр» — так называецца новая серыя прыгод Бонда — не будзе прахадной стужкай (як вядома, фільмы пра шпіёна выходзяць рэгулярна раз на два гады). Аднак мастацкія якасці карціны і гульня актораў тут не пры чым. Папросту напярэдадні выхаду «Спектру» на шырокі экран як ніколі гучнымі былі заклікі да карэкцыі іміджу героя бандыяны.

Вобраз Бонда склаўся ў 1960-я гады і заставаўся практычна закансерваваным да цяперашняга часу. Чуеш «Джэймс Бонд» — і адразу ўзнікае тыповы набор асацыяцый: брытанскі арыстакрат, якому ўласцівы цынізм, самаіронія, спажывецкае стаўленне да слабага полу, любоў да добрых аўтамабіляў і алкаголю і г.д. Калісьці такая мадэль успрымалася як нешта рэвалюцыйнае, аднак сёння шмат каму падаецца архаікай і сексізмам. Адсюль заклікі неяк мадэрнізаваць імідж славутага шпіёна.



Найбольшую фракцыю сярод аматараў рэбрындынгу агента 007 складаюць аматары чарнаскурага Бонда, або Black Bond (англ.: Чорны Бонд). Такі праект горача падтрымлівае, напрыклад, Пітэр Бросман, які выконваў ролю Бонда ў 1990–2000 гадах. Называецца нават канкрэтны актор, які можа прыйсці за змену Дэніэлю Крэйгу, які выконвае ролю Джэймса Бонда з 2006 года. Гэта Ідрыс Эльба — брытанскі актор, вядомы нашай аўдыторыі па серыялу «Лютэр». Праўда, сам артыст кажа, што Чорны Бонд — гэта пакуль фантазіі яго фанатаў.

Адначасова паўстаў лагер тых, каму ідэя Чорнага Бонда не падабаецца. Сярод праціўнікаў чарнаскурага шпіёна — Энтані Горавіц — пісьменнік, сцэнарыст, якому не так даўно даручылі пісаць працяг прыгод агента 007. Горавіц лічыць, што вобраз агента ў выкананні чарнаскурага актора хутчэй пасуе творам пра барацьбу паліцыі з вулічнымі гандлярамі наркотыкаў. Роджэр Мур, які выконваў ролю шпіёна Яе Вялікасці ў 1970-я гады, мяркуе, што чарнаскуры актор у ролі агента 007 будзе азначаць адмову ад «брытанскага шыку» — аднаго з сакрэтаў поспеху брэнду «Джэймс Бонд».

Асобная група гледачоў выступае за тое, каб Бонд у будучых серыях належаў да катэгорыі сексуальных меншасцяў. У папярэдняй серыі «Каардынаты Скайфол» яны нават пабачылі намёк на тое, што Бонд бісексуал. У адной са сцэнаў галоўны адмоўны персанаж Мільва гулліва кранае торс разведчыка. Аднак сам Даніэль Крэйг у адным з інтэрв'ю рашуча адхіліў спробы замаху на гетэрасексуальнае лібіда свайго персанажа. «Бонд — не гей, паколькі гэта супярэчыць яго характару», — катэгарычна заявіў артыст.



Існуе такая незвычайная плынь, аматары якой выступаюць за трансфармацыю Бонда ў жанчыну. Для іх міс Бонд — гэта адзіны шанс для рэабілітацыі персанажа за свае былыя адмоўныя ўчынкі. «Пачынаючы з 1962 года Джэймс Бонд — белы мужчына, які шпацыруе па свеце, які належыць яму і яму падобным. Аднак тыя часы мінулі. Бонд павінны адказваць на нейкія не прыемныя для яго пытанні. Перш за ўсё — чаму ён увесь час абыходзіўся з жанчынамі як стары сексіст?» — піша нямецкая газета «Tageszeitung». А амерыканскае выданне «Variety» увогуле называе ўсе старыя серыі бандыяны «крымінальнае мінулае».

Цікава, што стваральнікі бандыяны вымушаны рэагаваць на падобную крытыку. Так, Даніэль Крэйг перад прэм'ерай «Спектру» заявіў, што Бонд у яго выкананні — гэта самы па-сяброўскі наладжаны да жанчын Бонд за ўсе часы існавання серыялу.

Каб падкрэсліць павагу да жанчын, ролю сяброўкі Бонда ў «Спектры» спецыяльна аддалі Моніцы Белуччы, якая на тры гады старэйшая за Крэйга. За кошт Беллучы адносіны Бонда да сяброўкі выглядаюць больш сур'ёзнымі, чым дзяжурны флірт. Сама Моніка падкрэсліла, што выконвае ролю «не сяброўкі Бонда, а жанчыны Бонда». Увогуле, сам Джэймс Бонд у апошняй серыі не падобны на «крутога мача». Персанаж Крэйга, як пішуць кінакрытыкі, вельмі замкнёны і адзінокі.

Аднак падобныя крокі ўспрымаюцца ўсё ж як нейкія хітрыкі. На думку феміністак, Бонда нішто не зменіць, акрамя ператварэння ў жанчыну. Дарэчы, аматары пераўвасобіцца ў Бонда-жанчыну ўжо з'явіліся. Напрыклад, Анджэліна Джалі. Па яе словах, ёй прапаноўвалі ролю сяброўкі Бонда ў фільме «Казіно Раяль» (2006), аднак яна ў адказ запатрабавала ролю галоўнага героя.

Нарэшце, трэба ўзгадаць і опцыю «Руды Бонд». Праўда, звязаныя са словам «руды» побытавыя забабоны тут не пры чым. Папросту актор Дэміян Льюіс якога шмат хто хацеў бы пабачыць у ролі наступнага Бонда, мае рудыя валасы.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларусь у дрэйфе. Яе знешняя палітыка дзейнічае ў небяспечным і непрадказальным полі. Яе аўтакратычны кіраўнік абдумвае, як лепш правесці рэформы ўлады. Апазіцыя спрабуе адрадзіцца і змяніцца. І што б ні распачала Расія бліжэйшым часам, яна абавязкова скарыстаецца любой нявызначанасцю ў будучыні краіны.

**«Foreign Affaires» (ЗША)**

Лукашэнка-палітык апярэдзіў з'яўленне пуцінізму – палітыкі, што супраціўляецца механічнаму перасаджванню мадэляў ліберальных дэмакратыяў на постсавецкую глебу. Як і Пуцін, ён ішоў да ўлады з перакanaўчай крытыкай савецкай мадэлі. Стаўшы ж на чале краіны, у якой сканцэнтраваны гіганты савецкай цяжкай індустрыі, ён аддаў анафеме Шушкевіча, белавежскага падпісанта, наадрэз адмовіўся ад бяздумнай прыватызацыі, якая ўсюды закончылася адкрытым заахвочваннем нажывы і стварэннем алігархату. Магчыма, А. Лукашэнку пашанцавала – у сярэдзіне 90-х гадоў у народнай масе крытычны зарад непрымання «гайдарономікі» і «чубайсізацыі» быў занадта вялікі, ігнараваць яго не змог Ельцын, дый не пажадаў Лукашэнка.

**«Haqqin» (Азербайджан)**

Ці застанецца Беларусь суверэннай дзяржавай, і ці з'яўляецца яна такой цяпер? Над гэтым пытаннем разважалі ўдзельнікі дыскусіі 28 кастрычніка ў Вільні. У пачатку дыскусіі яе ўдзельнікам прапанавалі прагаласаваць, ці застанецца Беларусь суверэннай дзяржавай. За тое, што яна такой застанецца, прагаласавалі 24 чалавекі, 12 падтрымалі тэзіс пра тое, што Беларусь не застанецца суверэннай дзяржавай, а 2 чалавекі не мелі на гэты конт пэўнай думкі.

**«Delfi» (Літва)**

Пазіцыя Аляксандра Лукашэнкі адносна важных для Захаду пытанняў памякчэла. Гэта дапамагло скараціць прэмію за рызыку ў беларускіх аблігацыях да мінімальнага ўзроўню амаль за год. Ashmore Group Plc, якая валодае значным абёмам беларускіх еўрааблігацый, кажа, што ралі працягнецца. Паляпшэнне пазіцый на Захадзе дазволіць Лукашэнку лягчэй абслугоўваць дзяржаўныя даўгі, у той час як эканоміка краіны падае, а сітуацыя ў фінансавай сферы пагаршаецца.

**«Bloomberg» (ЗША)**

Літва ўжо шмат гадоў спрабуе вырваць Беларусь, як кажуць у Вільнюсе, «з абдымкаў Расіі». Тут актыўна дзейнічае беларуская апазіцыя, знайшлі прытулак многія ворагі афіцыйнага Мінска. Перад мінулымі прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ нават запрашала Аляксандра Лукашэнку ў Вільню, называла гарантам незалежнасці яго краіны. Праца па змяненні палітычнай арыентацыі афіцыйнага Мінска працягваецца.

**«Парламентская газета» (Расія)**

Спробы Праваслаўнай царквы ў Беларусі адначасова выступаць на баку дзяржавы, і пры гэтым адстойваць свае каштоўнасці, могуць быць паспяховымі толькі ў выпадку апоры на грамадства, лічаць эксперты. Аднак пры слабой развітасці грамадзянскай супольнасці ў Беларусі ў цэлым, а таксама з-за занадта моцнага кантролю з боку дзяржавы Царква па-ранейшаму застаецца пасіўным гледачом усіх працэсаў, якія адбываюцца ў краіне.

**«Русская Планета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. «Вялікаму дыктатару» 75 гадоў

Споўнілася 75 гадоў з моманту выхаду ў пракат славутага фільма Чарлі Чапліна «Вялікі дыктатар». Згадваючы славутую антыгітлераўскую камедыю, кіназнаўцы выявілі шэраг малавядомых фактаў. Чаплін сам прыдумаў у сцэнары тэму канцэнтрацыйных лагераў, не ведаючы пра іх існаванне ў нацысцкай Германіі, але хутка праўда адкрылася. А вось пра стаўленне Галівуду да твору Чапліна стала вядома толькі зараз. Аказваецца, усе буйныя галівудскія кінакампаніі адмовіліся супрацоўнічаць з Чаплінам, паколькі баяліся згубіць нямецкі кінарынак. Адмовілі аўтару «Вялікага дыктатара» таксама такія кампаніі, як Paramount, Universal, Metro-Goldwyn-Mayer, Warner Brothers, Columbia Pictures, якімі кіравалі этнічныя яўрэі. Чапліну давялося ўкладаць у фільм свае грошы, аднак нават падчас здымкаў прэса заклікала забараніць стужку, баючыся за тое, што Берлін за сатыру супраць Гітлера можа забараніць пракат усёй амерыканскай кінапрадукцыі. Стаўленне да карціны цалкам змянілася, калі здымкі падышлі да фіналу. За час, пакуль рабіўся фільм, Германія паспела захапіць Францыю. Перапужанае грамадства ЗША кінулася падтрымліваць праект Чапліна. Ёсць інфармацыя, што дарабіць карціну, праца над якой часова спынілася з-за нейкіх цяжкасцяў, прасіў праз сваіх асістэнтаў асабіста прэзідэнт Рузвельт. Думаецца, гэта не апошняя невядомая старонка стварэння «Вялікага Дыктатара».

**Паводле нямецкай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Як Ашхабад акультурыўся

Калі верыць вядомай праваабарончай арганізацыі «Amnesty International», туркменскія ўлады арыгінальна падышлі да падрыхтоўкі Азіяцкіх гульняў па баявых мастацтва, прызначаных на 2017 год. З мэтай «акультурыць» сталіцу Туркменістана, дзе адбудзецца турнір, прыблізна 50 000 чалавек былі прымусова выселеныя са сваіх дамоў. Будынкі, у якіх жылі людзі, былі разбураныя. Паводле праваабаронцаў, у выніку цэлы прыгарадны раён сталіцы, які ўключаў больш за 10 000 дамоў, быў на працягу лета папросту сцёрты з твару зямлі. Арганізацыя таксама выказвае заклапочанасць тым, як ахвяры «акультурвання» Ашхабаду перажывуць зіму. Варта адзначыць, што гэта далёка не першы выпадак, калі людзей прымусова выганяюць з уласных дамоў. Такая практыка існуе ўжо не адзін год. Звычайна, людзі вымушаны перасяляцца, калі камусьці з набліжаных да прэзідэнта раптам спадабаецца зямля, на якой стаяць дамы. У такім выпадку высяленцам выплачваюць кампенсацыю і даюць 24 гадзіны, каб пакінуць дамы. У прыгарадзе Ашхабада ёсць нямала жыхароў, якія прайшлі такое высяленне ўжо па два разы.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### УКРАІНА. Руслана вярнулася ў палітыку

Адзін з сімвалаў Еўрамайдану, вядомая ўкраінская спявачка Руслана Лыжычка ўмяшалася ў палітычную барацьбу ва Украіне. Яна апублікавала артыкул «Дастала», у якім жорстка раскрытыкавала рэжым Пятра Парашэнкі. Руслана назвала Блок Пятра Парашэнкі «Салідарнасць» «партыяй адмінрэсурсу, у якой няма сапраўднай ідэалогіі, сапраўднай гісторыі і сапраўдных лідараў». Артыкул Русланы з'явіўся на фоне рэзкага абвастрэння палітычнай сітуацыі, эпізодамі чаго сталі брудныя выбары 25 кастрычніка, арышт Генадзя Корбана (правая рука алігарха Каламойскага), замах на генпракурора, фактычны развал кааліцыі. Адсюль вялікі інтарэс да артыкулу Русланы, які сімвалічна сведчыць пра развал сацыяльнага блоку падтрымкі Парашэнкі. Патрыятычная грамадскасць сыходзіць у апазіцыю да прэзідэнта, а ён у сваю чаргу шукае саюзнікаў сярод экс-рэгіяналаў. З іншага боку, арышт Корбана, які абвастрыў цяперашні крызіс, прэзідэнт наўрад ці мог зрабіць без дазволу з боку Захаду. Паколькі без заходняй фінансавай падтрымкі ўкраінская эканоміка не працягне, апазіцыя асуджаная шукаць дыялог з Парашэнкам.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Масоны выратуюць краіну

Даніэль Келер, галоўны магістр самай уплывовай масонская ложы Францыі Grand Orient de France (фр.: Вялікі ўсход Францыі) заклікаў сяброў па руху да мабілізацыі. Мэта мабілізацыі — выратаванне рэспублікі, галоўную пагрозу для якой стварае Марын Ле Пэн, лідар «Нацыянальнага фронту». На думку масонаў, уздым папулярнасці «Нацыянальнага фронту» — прамая пагроза ўсёй спадчыне Вялікай французскай рэвалюцыі, паколькі Марын Ле Пэн і яе аднапартыйцы не прызнаюць каштоўнасці 1789 года. Келер лічыць, што ў выпадку перамогі Ле Пен у Францыі пачнецца рэабілітацыя манархіі, што створыць падставы для яе рэстаўрацыі. Застаецца дадаць, што ў ложы Grand Orient de France каля 50 тысяч сяброў, а ўсяго ў Францыі каля 150–170 тысяч сяброў розных масонскіх ложаў.

**Паводле французскай прэсы**



Фота www.szona.org

# Піянеры Пуціна

Алег НОВІКАЎ

**Уладзімір Пуцін падпісаў указ аб стварэнні Расійскага руху школьнікаў, які завочна ўжо называюць сучасным аналагам піянерыі. Расійскія аналітыкі спрабуюць зразумець, навошта Пуціну піянеры і што можа ўяўляць сабой новы піянерскі рух.**

У прынцыпе, ад Крамля трэба было чакаць падобнага кроку. За апошнія два гады мы сталі сведкамі вялікай колькасці ініцыятыў, накіраваных на ўзмацненне патрыятычнага выхавання расійскіх школьнікаў. Часам тыя праекты выглядалі вельмі экстравагантна. Напрыклад, камуністы прапанавалі падчас перапынкаў трансляваць па школьных радыё дзяржаўны гімн.

Пакуль праект новых піянераў дастаткова абстрактны. У афіцыйным паведамленні Федэральнага агенцтва па справах моладзі, якое, паводле ўказу, будзе непасрэдна займаецца стварэннем арганізацыі, адсутнічаюць важныя дэталі. Перш за ўсё, не зразумела, ці будзе сяброўства ў арганізацыі абавязковым. Ці будзе новая моладзевая арганізацыя будавацца пад дахам нейкай партыі, як было з піянерамі. Тым не менш у расійскім экспертным сегменце ўжо актыўна спрачаюцца наконт будучага Руху школьнікаў.

Па-першае, указ Пуціна разглядаюць як важны этап рэабілітацыі савецкага мінулага. «Гэта гістарычнае рашэнне для Расійскай Федэрацыі», — сказаў пра ўказ лідар КПРФ Генадзь Зюганаў. Некаторыя СМІ звярнулі ўвагу на тое, што Пуцін выдаў пастанову ў той жа самы дзень, калі ў 1918 годзе быў створаны Расійскі камуністычны саюз моладзі (РКСМ). Пазней ён стаў называцца Ленінскім, а ў 1926 годзе ўжо стаў Усесаюзным.

Тое, што Пуцін вырашыў «прыватызаваць» спадчыну ВЛКСМ, выклікала рэўнасць у часткі камуністаў. Так, намеснік старшыні ЦК КПРФ Іван Мельнікаў папрасіў не параўноўваць новы рух з камсамолам, бо ідэі апошняга «належаць зараз апазіцыі, а не ўладзе». Ён лічыць, што піянеры Пуціна будуць хутчэй нагадваць скаўтаў. Дасюль не зразумела, што будуць рабіць камуністы са сваімі моладзевымі структурамі. Шмат пытанняў узнікне, калі Рух школьнікаў паспрабуе выкарыстоўваць брэнды савецкай піянерыі. Справа ў тым, што юрыдычна яны аформлены на тых жа камуністаў.

Расійская служба «Радыё Свабода» звяртае ўвагу на тое, што Рух школьнікаў — гэта новы этап у гісторыі пуцінскага аўтарытарызму. Пасля таго, як Пуцін заняў пасаду прэзідэнта краіны, у Расіі з'явілася цэлая абойма праўладных моладзевых структур. Аднак «Идущие вместе», «Наши», «Молодая гвардия», проект «Сеть» і іншыя арганізацыі фармальна не мелі да Крамля дачынення, а іх фінансаванне ішло праз звязаны з уладай бізнес. А вось задэклараваны Рух школьнікаў будзе цалкам упісаны ў дзяржаўную вертыкаль.

Гэтую думку развівае інтэрнэт-выданне «Свободная зона»: «Указам аб стварэнні агульнарасійскай дзіцяча-юнацкай арганізацыі «Расійскі рух школьнікаў», Расія цалкам замкнула сістэму ўплыву на ўзроставыя катэгорыі насельніцтва. Менавіта моладзь заставалася да гэтага часу максімальна абстрагаванай ад крамлёўскай прапаганды, знаходзячыся, па большай частцы, у свеце ўплыву заходніх трэндаў. Цікавы той факт, што стварэнне дадзенай арганізацыі адбылося адначасова з інтэнсіўным уводам так званых адзіных стандартаў для навучэнцаў, а менавіта: адзінай формай для ўсіх школьнікаў, адзінай праграмы для ўсіх школ, адзіных падручнікаў».

На думку шмат каго, піянеры — толькі пачатак. Выданне «Московский комсомолец» канстатуе: «Жыццё наша коціцца назад з крэйсерскай хуткасцю. Падбіраем кавалачкі «саўка», якія былі калісьці выкінутыя, і спрабуем удыхнуць у іх новае жыццё. Пачыналі з гімна. Потым вярнулі дзяржаўную прапаганду ў тэлевізар, цэнзуру ў СМІ, форму ў школу... Забарону на аборты і артыкул КК за гомасексуалізм, рэкамендацыю ад двух адзінаросаў для паступлення ў ВНУ, абавязковую падпіску на Галоўную газету краіны, добраахвотна-абавязковую куплю акцый дзяржаўнай пазыкі яшчэ не вярнулі. Але ўжо блізка».

Частка каментатараў лічыць, што адрадзіць мадэль савецкай піянерыі немагчыма, хаця б з-за наяўнасці ў краіне шматпартыйнасці. Аднак дакладная малюнка, што будзе ўяўляць Рух школьнікаў, яны не прапануюць. Розныя праўладныя палітыкі і чыноўнікі па-рознаму бачаць нават яго задачы. Некаторыя лічаць, што праца новых піянераў павінна супрацьстаяць кампутарнай залежнасці школьнікаў. Другія кажуць, што будзе барацьба з індывідуалізмам. Трэція заклікаюць новых піянераў разабрацца з аматарамі Майданаў і г.д.

Нарэшце, ёсць трэці напрамак у грамадскай думцы адносна новых піянераў. Некаторымі звяртаецца ўвага на наступны абзац указу Пуціна: «Галоўнай задачай «Расійскага руху школьнікаў» стане фарміраванне асобы на аснове ўласцівай расійскаму грамадству сістэмы каштоўнасцяў». Больш незразумелы тэрмін, чым «уласцівая расійскаму грамадству сістэма каштоўнасцяў», на думку каментатараў, цяжка прыдумаць. З улікам таго, што фінансавацца арганізацыя з такімі размытымі ўстаноўкамі будзе з бюджэту, узнікае думка, што ўся пуцінская піянерыя выльецца ў сублімацыю чарговага «распілу».

Што тычыцца простых расіян, то яны ў лепшым выпадку праігнаравалі навіну пра адраджэнне піянераў. Тыя, хто каменце новы праект на інтэрнэт-форумах, як правіла, даюць яму негатыўную ацэнку. Натуральна, хапае жартаў накшталт «піянерважатага Кабзона не хапае», «Ужо і піянераў адрадзілі, а рубель усё роўна падае». На іранічнае стаўленне да ідэі паўплывала дата з'яўлення ўказу. Піянераў адрадзілі напярэдадні папулярнага свята Хэлоўін. Некаторыя сатырыкі прагназуюць, што Хэлоўін стане афіцыйным святам новых піянераў, а гарбуз — сімвалам новага руху.

# Невядомы Майдан

**У верасні-кастрычніку маленькую Чарнагорыю ахапілі масавыя пратэсты супраць уступлення краіны ў NATO. Што кепскага зрабіў чарнагорцам Паўночнаатлантычны альянс? Чаму пратэсты практычна не асвятляе еўрапрэса? Разабрацца з гэтымі пытаннямі журналісту НЧ Алегу Новікаву дапамог украінскі палітолаг Дзяніс Канстанцінаў.**



Фота www.ntv.ru



Фота www.rusvesna.su

***— Паводле балканскага фальклору, чарнагорцы — абыякавыя гультаі. Не дарма ў часы Ціта гуляў анекдот: «Пытанне: Калі наступіць камунізм у Югаславіі? Адказ: Калі чарнагорац пачне працаваць». З улікам гэтага не верыцца, што чарнагорцаў так абурыла магчымае ўступленне краіны ў NATO.***

— NATO, безумоўна, толькі фармальная прычына. Пратэст атрымаў масавую базу з-за кепскага эканамічнага стану. Каб вы ведалі, у верасні быў апублікаваны даклад Сусветнага банку, паводле якога ўзровень беспрацоўя сярод моладзі ў рэгіёне складае каля 45 працэнтаў. Паколькі ідэю сяброўства ў Паўночнаатлантычным альянсе прапанаваў істэблішмент, які ў вачах грамадства нясе адказнасць за крызіс, хапала тых, хто адгукнуўся на заклік апазіцыйнага Дэмакратычнага фронту выйсці на вуліцы. Мітынгі, што пачаліся напрыканцы верасня, часам збіралі да 10 тысяч чалавек, што для 600-тысячнай краіны даволі шмат. Пратэсты дасягнулі свайго апагею 17 кастрычніка, калі адбыліся сутычкі з паліцыяй. Намётавы гарадок перад парламентам быў разагнаны з выкарыстаннем спецсродкаў. Аднак, натуральна, пра канчатковую нармалізацыю сітуацыі пакуль яшчэ казаць рана.

***— Ці згуляў сваю ролю ў мабілізацыі фактар Міла Джуканавіча, які знаходзіцца пры ўладзе (ці як прэзідэнт, ці як прэм'ер) з 1991 года? Расійская прэса нават спрабавала называць яго апошнім дыктатарам Еўропы.***

— Міла Джуканавіч за 24 гады пры ўладзе (нагадаем, што да ўлады ён дарваўся дзякуючы Мілошавічу) нажыў сабе ў краіне шмат ворагаў. Інакш бы галоўная апазіцыйная сіла — Дэмакратычны фронт — не была кааліцыяй, якая складаецца з самых ідэйна палярных структур, ад сацыялістаў да кансерватараў. Усіх іх аб'ядноўвае жаданне адправіць Джуканавіча ў адстаўку. Прычым крытыка курсу на ўступленне ў NATO — далёка не асноўны лозунг Дэмфронту. Бо, на думку апазіцы, цяперашні рэжым ігнаруе рэкамендацыі ЕС па рэформах заканадаўства па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю. Менавіта дробны бізнес — ахвяра карупцыі — фінансава падтрымаў Майдан у Падгорыцы.

**Па-сутнасці, грамадству прапанаваўся выбар — або Джуканавіч і незалежнасць, або апазіцыя і страта незалежнасці**

***— Чым улады растлумачылі неабходнасць ліквідацыі намётавага гарадка апазіцыі?***

— Натуральна, тым, што гэта ўяўляе пагрозу грамадскаму парадку. А яшчэ і тым, што пратэсты нясуць пагрозу незалежнасці краіны, якая толькі ў 2006 годзе дзякуючы якраз Джуканавічу атрымала суверэнітэт. Па-сутнасці, грамадству прапанаваўся выбар — або Джуканавіч і незалежнасць, або апазіцыя і страта незалежнасці.

***— Адным з эпізодаў супрацьстаяння ў Чарнагорыі стаў паход сербскіх нацыяналістаў з Бялграду на дапамогу Дэмфронту. Наколькі моцны ў Сербіі імперскі сіндром?***

— Натуральна, настальгія па Югаславіі, якая ўключала тую ж Чарнагорыю, засталася. У самой Чарнагорыі шмат хто выступаў супраць радыкальных рэформаў Джуканавіча па стварэнні сімвалаў асобнай ад сербскай чарнагорскай нацыі. Напрыклад, тады мела месца моўная, царкоўная рэформы. Тут існуе блок прасербскіх апазіцыйных партый, якія, праўда, выступаюць не за адраджэнне Югаславіі, а за міжнацыянальны дыялог. Аднак той паход сербскіх нацыяналістаў на дапамогу чарнагорскаму Майдану сабраў не больш за 40–50 чалавек. Таму маркую, гэта была хутчэй піяр-акцыя.

***— Паводле слоў прэм'ера, за пратэстамі стаіць Масква. Той жа думкі прытрымліваецца ўкраінская прэса, якая абвінаваціла ў арганізацыі пратэстаў пасольства РФ у Падгорыцы. Ці сапраўды Расія гуляе сваю партыю на Балканах, і ў тым ліку ў Чарнагорыі?***

— Расію як фактар адмаўляць нельга. Напрыклад, Расія апошнім часам актыўна выходзіць на сербскі медыя-рынак. Відавочна, што яна актыўна працуе з урадам Цыпраса ў Грэцыі. Што тычыцца Чарнагорыі, то пакуль у якасці доказаў дачынення Масквы да пратэстаў фігуруюць толькі здымкі чарнагорскіх дэмакратаў на нейкіх дыпламатычных кактэйлях у пасольстве Расіі. Хаця прынцыповае непрыманне паўночнаатлантычнай інтэграцыі Чарнагорыі ў Маскве відавочнае. У тым ліку таму, што Джуканавіч нейкі час лічыўся прамаскоўскім палітыкам.

***— Чаму еўрапейскі палітыкум слаба адгукаецца на разгоны маніфестацый у Падгорыцы, тым самым даючы Маскве падставу для спекуляцый? Маўляў, падчас Майдану ў Кіеве вы крытыкавалі Януковіча за паліцэйскі гвалт, а зараз самі заплюшчваеце вочы на падобныя ўчынкі іншага аўтакратычнага палітыка толькі праз тое, што ён хоча ўступіць у NATO.***

— Магчыма, тут ёсць нейкая кан'юнктура. Аднак важна таксама сказаць, што гэта далёка не першы балканскі Майдан. Два гады таму масавыя беспарадкі ахапілі Боснію. Два разы за апошні час выбухала Албанія. І ўсе тыя падзеі таксама былі па-за ўвагай еўрапалітыкаў. З іншага боку, зараз для Брусэля на першым месцы — пытанне мігрантаў і Балканы, праз якія ідзе транзіт, набываюць вялікую ролю. Шматлікія балканскія палітыкі ўжо выказалі надзею наконт таго, што перагляд месца Балканаў у палітыцы Брусэля паспрыяе пазітыўным інстытуцыянальным зменам у рэгіёне.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ігар Гіркін (Стралкоў)



Былы лідар данбаскіх сепаратыстаў выступіў з заявай аб магчымым стварэнні новай апазіцыйнай да Пуціна партыі. Пакуль пра праект Гіркіна вядома няшмат. У ідэалагічным плане гэта хутчэй за ўсё будзе правая партыя. Структурна аўтарам праекту ён бачыцца як шырокі рух. Антыпуцінскія тырады Гіркіна выклікалі інтарэс сярод палітычных назіральнікаў, паколькі ён падчас кульмінацыі вайны на Данбасе меў вельмі вялікі рэйтынг сярод простых расіян. Праўда, сам лідар сепаратыстаў тады ў апазіцыянеры не рваўся. І нават некалькі разоў публічна выказаў сваю лаяльнасць прэзідэнту РФ. Сваё стаўленне да Пуціна ён змяніў у апошнія часы, абвінаваціўшы Крэмль у здачы праекту «Наваросія». Эксперты называюць некалькі прычын таго, чаму Стралкоў раптам вырашыў паспрабаваць сябе ў палітыцы — ад банальнага жадання папулярнасці да новай спробы пазбавіцца ад іміджу «бандыта» ці канвертаваць яго ў капітал. Аднак зараз назіраецца падзенне інтарэсу да Украіны, і наўрад ці Гіркін можа разлічваць на нешта сур'ёзнае. У дадатак у сілу свайго эгацэнтрычнага характару і халерычнага тэмпераменту, як піша прэса, ён не здольны да сістэмнай дзейнасці. Самае цікавае, што вакол Гіркіна-Стралкова круціцца адзін з украінскіх алігархаў, які раней быў блізкі да Януковіча.

### Роберт Мугабэ



Прэзідэнт Зімбабве стаў лаўрэатам Прэміі міру імя Канфуцыя, якую з 2010 года раздае ўрад Кітаю. Увогуле, яе прыдумалі, каб адцягнуць увагу ад уручэння Нобелеўскай прэміі міру аднаму кітайскаму дысідэнту. З таго часу лаўрэатам кітайскага Нобеля былі Кофі Анан, Фідэль Кастра, Уладзімір Пуцін. Нарэшце прэмія дасталася і Мугабэ за яго «лідарскія якасці і службу ўсёй Афрыцы». Рашэнне Пекіну шакавала сусветную супольнасць, і асабліва праваабаронцаў, якія дасюль не забылі вераснёўскі спіч Роберта Мугабэ на Генасамблеі ААН, у якім ён чамусьці вырашыў пераканаць увесь свет у тым, што «зімбабвійцы не геі», якія ў сваю чаргу з невядомай прычыны «горшыя за казлоў і птушак». У прынцыпе прэмія для Мугабэ разглядаецца ў кантэксце палітыкі пранікнення Пекіну ў Афрыку. Гуляючы на канфліктах мясцовых дыктатараў з Захадам па тэме правоў чалавека, кітайцы стала ствараюць сябе палітычнае лобі. Праўда, у выпадку з экстравагантным Мугабэ, рабіць гэта складана. У 2007 годзе афіцыйны Пекін дазволіў сабе нават публічную крытыку дыктатара за яго фінансавую палітыку. Застаецца дадаць, што лаўрэат прэміі міру імя Канфуцыя атрымлівае прыкладна 15 тысяч долараў.

### Ільхам Аліеў



Прэзідэнцкая партыя «Ені Азербайджан» (Новы Азербайджан) у чарговы раз выйграла выбары ў парламент. У прынцыпе, ніхто і не чакаў іншых вынікаў з улікам аўтарытарнай прыроды азербайджанскага рэжыму. Як прыклад, ніводнага разу за ўсе часы прэзідэнцтва Ільхама Аліева назіральнікі АБСЕ не прызнавалі выбары ў краіне дэмакратычнымі і празрыстымі. Аднак цяперашнія выбары можна лічыць гістарычнымі. І не толькі таму, што ў іх раптам прыняла ўдзел жанчына ва ўзросце 126 гадоў. Справа ў тым, што на гэты раз заходнія назіральнікі ўвогуле адмовіліся прысутнічаць на азербайджанскіх выбарчых участках з-за таго, што Баку абмежаваў колькасць корпусу назіральнікаў. Гэты абмен уколамі стаў працягам дыпламатычнай вайны паміж ЕС і Аліевым, якая цягнецца са жніўня. Хаця фармальнай прычынай пікіроўкі называюць парушэнні праў чалавека, большасць назіральнікаў бачыць тут геапалітычны кантэкст. Баку, мяркуючы па ўсім, намагаецца захаваць нейтралітэт, не даць уцягнуць сябе ў рэгіянальны антырасійскі блок. З іншага боку, эскалацыя канфлікту з Захадам пагражае ператварыць Аліева ў васала Расіі. Дарэчы, расійскія назіральнікі адразу прызналі выбары ў Азербайджане дэмакратычнымі.



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

# ГУЛАГ вачамі аналітыкаў КАП

**У пачатку 1930-х гадоў выведка польскага Корпуса аховы памежжа валодала падрабязнай інфармацыяй аб структуры і функцыянаванні сістэмы канцэнтрацыйных лагераў на тэрыторыі СССР.**

## Сведкі з СССР

У задачу КАП уваходзіла не толькі непасрэдная ахова дзяржаўнай мяжы на ўсходзе Другой Рэчы Паспалітай, але і арганізацыя выведвальнай і контрвыведвальнай працы на ўсходнім накірунку. Не менш увагі надавалася вывучэнню арганізацыі і дзейнасці сталінскіх рэпрэсіўных органаў. У жніўні 1933 года выведка КАП падрыхтавала для свайго кіраўніцтва (аддзел «W» (Усход) спецыяльны аналітычны даклад пад агульнай назвай «АДПУ. Кіраўніцтва і канцэнтрацыйныя лагеры СССР».

Гаворка пра аналіз дзейнасці асноўных лагераў сістэмы ГУЛАГ (каля 14) у розных раёнах СССР. Вялікая ўвага надавалася структуры АДПУ ў Мінску, Полацку, Негарэлым, Алма-Аце, Ленінградзе. Інфармацыю пра канцлагеры атрымалі ад былых палітычных вязняў, якіх восенню 1932 года абмянялі на польскіх грамадзян, арыштаваных Дзяржаўнай паліцыяй за розныя (у тым ліку і палітычныя) злачынствы. Працэдуры абмену папярэднічалі доўгія і цяжкія перамовы паміж Міністэрствам замежных спраў Другой Рэчы Паспалітай і Народным камісарыятам замежных спраў СССР. Галоўную ролю ў гэтым дыялогу адыгрывала Амбасада Польшчы ў Маскве. Сярод іншых, падчас гэтага абмену свабоду атрымаў ксёндз Тэафіл Скальскі, які з 1926 года знаходзіўся ў савецкіх турмах. Абмен вязнямі адбываўся на вядомай тады як галоўныя вароты ў «савецкі рай» польскай станцыі Коласава.

Ужо на мяжы, у будынку стражніцы КАП «Коласава», кожны з вызваленых вязняў быў падрабязна апытаны. Пазней, на працягу 1933 года, польскія выведнікі на аснове паказанняў, атрыманых ад былых вязняў савецкіх турмаў і лагераў, склалі падрабязную справаздачу. Гэта былі, па сутнасці, першыя дадзеныя пра ГУЛАГ, атрыманыя на Захадзе. У выніковым дакуменце, які складаўся з 95 старонак, утрымлівалася інфармацыя наконт Салавецкага лагера, Беламора-Балтыйскага лагера, Свірлага (ля ракі Свір), Сіблага (Навасібірск), Упраўлення Пячорскіх працоўных лагераў (Упітлаг), Упраўлення Вышэрскіх папраўча-працоўных лагераў, Паўночных лагераў (упраўленне ў Котласе), Цемнякоўскіх лагераў (Тацьма), Сызранскіх, Пермскіх, Архангельскіх і шэрагу іншых лагераў.

У інфармацыйнай запісцы, якая дадавалася да агульнага дакументу, пазначалася, што на кожны лагер створана асобная тэчка, куды дадаваліся новыя звесткі, атрыманыя ад агентуры. Да таго ж дадзеныя, сабраныя польскімі выведнікамі, рэкамендавалася выкарыстоўваць у працы з перабежчыкамі і «канфідэнтамі» (агентамі) на савецкім баку.

## Анатомія ГУЛАГу

Каб зразумець, што з сябе ўяўляў даклад «АДПУ. Кіраўніцтва і канцэнтрацыйныя лагеры СССР», звернем увагу на тое, як польскія даваенныя аналітыкі апісвалі сістэму функцыянавання Салавецкіх канцэнтрацыйных лагераў у 1930–1932 гадах. Паводле дакументу, у 1930 годзе да «СЛАП» (Салавецкіх лагераў асаблівага прызначэння) былі далучаны лагеры ў Кемі і на Кольскім паўвостраве. Ахова складалася з супрацоўнікаў АДПУ, але ў лагеры працавала і шмат так званых «вольнанаёмных», звычайных савецкіх грамадзян, прынятых на працу ў сістэму ГУЛАГ. Яны атрымлівалі заробак ад 90 да 300 рублёў, абмундзіраванне і харчовы паёк. Са зняволеных фарміравалі роты, у кожнай з якіх было ад 50 да 400 чалавек. На чале стаяў староста, у якога быў намеснікі. Вязні прыязджалі ў Кемь на цягніку, пазней накіроўваліся на перасыльны пункт, праходзілі каранцін і высылаліся ў адзін з лагераў. Існавала тры катэгорыі вязняў: контррэвалюцыянеры, гаспадарчыя і крымінальныя злачынцы. Апошніх адміністрацыя лічыла сацыяльна блізкім элементам і давала ім больш правоў, чым іншым. Горш за ўсё прыходзілася «контры» — вязням, асуджаным па палітычных артыкулах. Акрамя гэтага, усе вязні падзяляліся на тры катэгорыі ў адпаведнасці з іх здароўем. Першыя дзве выкарыстоўвалі пры ўсіх відах працы (высечка лесу, у шахтах ці на лоўлі рыбы), а вось вязням з трэцяй групы прыходзілася выконваць абавязкі дробнай абслугі.



Коласава, амбен палітвязнямі. 1932 г.

Тыя, хто працаваў, атрымлівалі ўзмоцнены паёк, а вось абслуга — звычайны. У 1932 годзе працоўны першай катэгорыі за дзень атрымліваў 800 грамаў хлеба, 80 грамаў мяса ці 150 грамаў рыбы, 25 грамаў цукру, 100 грамаў бульбы, 20 грамаў алея і 100 грамаў кашы. А вось у трэцяй групе мелі: 400 грамаў хлеба, 40 грамаў мяса ці 75 грамаў рыбы, 13 грамаў цукру, 75 грамаў бульбы, 10 грамаў алея і 50 грамаў кашы. Да 1931 года вязні ГУЛАГу не атрымлівалі спецыяльнай вопраткі і знаходзіліся ў лагеры ў тым, у чым прыехалі. У 1931 годзе вязням трэцяй катэгорыі прадпісалі замест абутку насіць лапці. Праз год гэтая пастанова тычылася ўжо ўсіх катэгорый зняволеных. Зразумела, што такія ўмовы прыводзілі да высокай смяротнасці сярод гулагаўцаў. Да таго ж іх касілі розныя хваробы.

Ахову лагераў несла «ВАХО» (ваенізаваная ахова). Жаўнераў туды набіралі звычайна з войскаў АДПУ з Масквы, але здараліся выпадкі, калі туды траплялі звычайныя вайскоўцы РСЧА. Для арганізацыі сувязі ва ўпраўленнях кожнага лагеру мелася радыёстанцыя, а паміж лагернымі пунктамі меўся тэлефон. У Кемі таксама быў невялікі аэрадром, на якім знаходзілася некалькі самалётаў. У аналітычнай справаздачы, падрыхтаванай выведкай КАП, падрабязна апісвалася структура органаў кіравання розных лагераў і нават даваліся прозвішчы асобных чыноўнікаў, супрацоўнікаў адміністрацыі і аховы. Акрамя гэтага, у канцы кожнага з раздзелаў змяшчаўся план таго, як выглядаў той ці іншы лагер.

## Чэкісты з Мінска

Асаблівую цікавасць уяўляе другая частка аналітычнай справаздачы польскіх памежнікаў, у якой, у тым ліку, апісвалася працэс фармавання частак унутраных і памежных войскаў АДПУ у сталіцы савецкай Беларусі. «На працягу лета і восені мінулага года (1932 год) у Мінску на вуліцы Дзяржынскага скончана будова казарм для ўнутраных войскаў АДПУ. Цэнтр будынка чатырохпавярховы, а яго крылы складаюцца з трох паверхаў. У гэтых казармах знаходзіцца 1-ы полк АДПУ і школа памежнікаў», — адзначалася ў матэрыялах КАП. Акрамя гэтага там падкрэслівалася, што летам 1932 года полк АДПУ знаходзіўся на манеўрах пад Заслаўем. У студзені 1933 года гэтая частка ўнутраных войскаў зноў была накіравана пад Заслаўе і ўдзельнічала ў вучэннях па барацьбе з дыверсантамі, «якія прарваліся з Польшчы ў бок Мінска». Дарэчы, ролю ворагаў выконвала адна з рот чэкісцкага палка.

У справаздачы КАП адзначалася, што ў пачатку 1930-х гадоў на вуліцы Карла Маркса ў Мінску быў пабудаваны трохпавярховы будынак для камандзірскага складу АДПУ. Акрамя гэтага, паведамлялася, што частка «чэкістаў» жыла ў дамах на вуліцы Універсітэцкай, 39. Акрамя гэтага, вялікая ўвага надавалася аналізу агентуры АДПУ, якую бальшавікі накіроўвалі на польскую тэрыторыю. Сярод шпіёнаў было некалькі былых грамадзян Другой Рэчы Паспалітай, якія ў розны час збеглі ў БССР. Гэтыя людзі працавалі на мінскіх заводах і фабрыках, аднак у любы момант маглі быць накіраваны за кардон.

У дакладзе «АДПУ. Кіраўніцтва і канцэнтрацыйныя лагеры СССР» утрымлівалася інфармацыя і аб чэкісцкіх частках у Полацку. Дадзеныя былі атрыманы ад канфідэнткі «Двуйкі», якую затрымалі на мяжы савецкія памежнікі і некалькі дзён трымалі ў будынку штабу памежнага атрада. Падчас допытаў жанчына расказвала легенду, падрыхтаваную супрацоўнікамі КАП у Вільні. За час знаходжання на савецкім баку агенту польскай выведкі ўдалося сабраць дакладную інфармацыю пра колькасны склад савецкіх памежных падраздзяленняў ля Полацка, а таксама пра іх камандзіраў.

Да пачатку Другой сусветнай вайны аналітычная праца выведнікаў КАП разам з іншымі дакументамі Другога аддзела Генеральнага штабу Войска Польскага знаходзілася ў Варшаве. Падчас Вераснёўскай кампаніі 1939 года дакументы аказаліся ў руках нацыстаў. Пасля вайны гэтыя матэрыялы былі перададзены ў распараджэнне спецслужбаў сацыялістычнай Польшчы. У пачатку 1990-х гадоў яны сталі даступнымі для даследчыкаў.

**Фота з уласнага архіва Ігара Мельнікава**




Абмен палітвязнямі. 1932 г.



Падчас абмену палітвязнямі. Коласава, 1932 год



Патруль КАП

# Вандроўкі па Беларусі на запалкавых этыкетках



Сяргей ЧЫГРЫН

**Гарады Беларусі ў савецкай філуменіі з'явіліся пасля Другой сусветнай вайны. Найбольш актыўна рэкламаваліся на запалкавых этыкетках Мінск, Пінск, Брэст, Віцебск, Барысаў, Гомель.**

Часцей за ўсё паказвалі патрыятызм беларусаў у гады Другой сусветнай вайны. І, гледзячы на такія запалкі, здавалася, што гісторыя Беларусі пачыналася толькі з 1941 года. Па-за ўвагай філуменіі заставаліся старажытныя гарады Полацк, Навагрудак, Нясвіж, Заслаўе, Мір, Слонім, Гродна. У асноўным запалкі афармляліся на рускай мове, вельмі рэдка па-беларуску.

Пасля 1991 года, калі Беларусь атрымала незалежнасць, беларускія гарады на запалкавых этыкетках сталі з'яўляцца часцей. А ў 2014 годзе ААТ «Барысаўдрэў» распачало выпуск этыкетак з каляровымі гербамі гарадоў і мястэчак Беларусі. Выйшла ўжо больш за 100 этыкетак, і ўсе на рускай мове.

## Пінская вандроўка

Да 40-годдзя Беларускай ССР (1959 год) Пінскі камбінат парадаваў філуменістаў наборам запалак з 23 рознымі этыкеткамі. На гродзенскай этыкетцы, напрыклад, быў адлюстраваны мост праз Нёман, на гомельскай — яго Цэнтральная плошча. Была там і этыкетка з помнікам Янкі Купалы ў Мінску.

У 1960 годзе ў Пінску выпусцілі запалкі з 6 рознымі этыкеткамі, прысвечанымі Мінску, на якіх былі выяўлены Дзяржаўны тэатр оперы і балета, Палац культуры прафсаюзаў, Дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, помнік Перамогі, мастацкі музей і Палац спорту.

Да свайго 70-годдзя ў 1968 годзе Пінскі фанерна-запалкавы камбінат выпусціў юбілейны набор запалак з 9 этыкетак: будынак прадпрыемства ў Пінску, набярэжная ракі Піна, помнік загінуўшым воінам, Брэсцкая вуліца, рачны вакзал, Піянерская вуліца, гідрамеліяратыўны тэхнікум, клуб 40-годдзя Кастрычніка і новыя будынкі Пінска.

У 1973 годзе быў выпушчаны набор, прысвечаны Пінску. У наборы знаходзілася 6 карабкоў, на этыкетках якіх можна было ўбачыць рачны вакзал, набярэжную Піны, клуб імя 40-годдзя Кастрычніка, будынак гідрамеліяратыўнага тэхнікума, помнік загінуўшым воінам і Брэсцкую вуліцу.

У 2001 годзе «Пінскдрэў» выпусціў 18 карабкоў, прысвечаных Пінску. Гэта ўжо не былі толькі помнікі і героі вайны, а ўся архітэктурная прыгажосць горада і яго куткі: палац Бутрымовіча, плошча імя Кірава, дзіцячы парк, вуліца Леніна, гарадскі пляж, прыватная забудова, дзіцячая школа выяўленчага мастацтва, аўтобусны парк, Свята-Фёдараўскі сабор, чыгуначны вакзал, гарвыканкам, драмтэатр, Палескі ўніверсітэт, помнік археалогіі «Гарадзішча», музей беларускага Палесся, аўтавакзал, рачны вакзал.

## Барысаўская ды іншыя вандроўкі

А ў 1962 годзе Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат выпусціў серыю этыкетак «Вышэйшыя навучальныя ўстановы Мінска». На этыкетках былі намаляваны галоўныя карпусы політэхнічнага інстытута, інстытута народнай гаспадаркі, інстытута фізічнай культуры, БДУ, тэхналагічнага інстытута, тэатральна-мастацкага інстытута, інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі, педагагічнага інстытута і інстытута замежных моваў.

У 1978 годзе з'явіўся вялікі (28 штук) набор, прысвечаны Беларусі. Цудоўны сувенірны набор запалак быў добрым падарункам не толькі для гасцей з іншых краін, але і саміх беларусаў. На запалках былі адлюстраваны помнікі і гістарычныя мясціны з розных гарадоў Беларусі. Гэта — галоўны манумент Брэсцкай крэпасці, замак Радзівілаў у Нясвіжы, Белая вежа ў Камянцы, Палац піянераў у Гомелі, нафтаперапрацоўчы камбінат у Наваполацку, калійны камбінат у Салігорску, помнік Веры Харужай у Пінску, помнік экіпажу Паўла Рака ў Барысаве і іншыя.

> Арыгінальную серыю этыкетак «Прамень-Мінск» у 1966 годзе выпусціў Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат

Серыю простых этыкетак «Гарады Беларусі» ў 1960 годзе выпусцілі ўсе запалкавыя фабрыкі Беларусі. Гэта 9 карабкоў з рознымі этыкеткамі: палац піянераў у Гомелі, праспект Рэвалюцыі ў Барысаве, гасцініца ў Бабруйску, Дом Саюзаў у Гродне, будынак Дома чыгуначнікаў у Брэсце, вакзал у Гомелі, шырокафарматны кінатэатр у Магілёве, абласны драмтэатр у Віцебску і Дом культуры ў Слуцку.

Арыгінальную серыю этыкетак у 1966 годзе выпусціў Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат, серыя называлася «Прамень-Мінск». На этыкетках рэкламаваўся Мінскі гадзіннікавы завод «Прамень»: на кожнай этыкетцы былі адлюстраваны гадзіннікі, а пад імі — прыгожыя будынкі Мінска: Палац спорту, Прывакзальная плошча, будынак гадзіннікавага завода, кінатэатр «Піянер», клуб камвольнага камбіната, планетарый, радыётэхнічны інстытут, шматпавярховыя дамы Мінска.



























У 1968 годзе падобны варыянт этыкетак на запалках ажыццявіў Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат. Да 20-годдзя вызвалення Мінска ад гітлераўскіх захопнікаў камбінат у Гомелі парупіўся выдаць серыю запалак пад назвай «3 ліпеня — Дзень вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў». Яна складалася з этыкетак, на якіх былі помнік-танк у Мінску, набярэжная ракі Свіслач, плошча Перамогі, акадэмія навук БССР, Прывакзальная плошча і тэлецэнтр.

У 1982 годзе аб'яднанне «Гомельдрэў» выпусціла запалкавы сувенірны набор з 28 карабкоў «Гомельскі дрэваапрацоўчы камбінат». На этыкетках былі адлюстраваны працоўныя, спартыўныя і культурныя будні прадпрыемства.

## Ад Турынска да Рыбінска

Вельмі шмат запалак, прысвечаных беларускім гарадам, у 1950-х — 1980-х гадах выпускалі запалкавыя фабрыкі Расіі. Запалкавы камбінат «Гігант» з Калугі ў 1960 годзе выпусціў 9 карабкоў з чорна-белымі этыкеткамі, прысвечаныя Мінску. На іх паказаны Мінск канца 1950-х гадоў. Падобны набор запалак выпусціла і запалкавая фабрыка «1 мая» з Уфы.

У 1982 годзе Турынская запалкавая фабрыка (Расія) выпусціла серыю запалак з простымі этыкеткамі «60 гадоў СССР», дзе была надрукавана і этыкетка на запалках Дома ўраду Беларусі.

Барнаульская фабрыка (Расія) у 1964 годзе выпусціла серыю запалак «Сталіцы рэспублік СССР». Сярод іх былі запалкі з Прывакзальнай плошчай у Мінску.

Фабрыка з Барнаула ў 1966 годзе пазнаёміла ўсіх, хто карыстаўся запалкамі, з серыяй этыкетак «Гарады-героі». Тры этыкеткі былі прысвечаны Брэсту і яе крэпасці.

«Помнікі Вялікай Айчыннай вайны» — так называлася серыя запалак, якую выпусцілі ў 1975 годзе на запалкавай фабрыцы «Маяк» у Рыбінску (Расія). Былі там і тры этыкеткі, прысвечаныя Беларусі: курган Славы, помнік партызанам Гродзеншчыны (вёска Дзяляцічы) і помнік Канстанціну Заслонаву ў Оршы.

Расійская фабрыка «Сібір» у 1965 годзе ў вялікай серыі запалкавых этыкетак «Вялікая Айчынная вайна 1941–1945 гг.» выпусціла этыкетку з помнікам Марату Казею ў Мінску.

У 1980 годзе Балабанаўская эксперыментальная фабрыка для жыхароў Гомеля робіць цікавы філуменістычны падарунак — выпускае прыгожы сувенірны набор запалак з 28 розных этыкетак «50 гадоў заводу «Гомсельмаш». Набор паказаў увесь гістарычны шлях гомельскага прадпрыемства ў малюнках і тэкстах на запалках.

У 1985 годзе тая ж Балабанаўская эксперыментальная запалкавая фабрыка ўжо сумесна з аб'яднаннем «Барысаўдрэў» выпусціла новы набор з 28 карабкоў, прысвечаны подзвігу беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Увесь запалкавы набор адлюстроўвае подзвіг беларусаў у апошняй вайне, які паказаны ў помніках і мемарыяльных комплексах, што знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі.

Сумесны праект Балабанаўскай эксперыментальнай фабрыкі ў 1985 годзе з беларускімі аб'яднаннямі «Пінскдрэў», «Барысаўдрэў» «Гомельдрэў» працягвае і ажыццяўляе выпуск яшчэ аднаго сувенірнага набору з 28 карабкамі «Мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой».

***

У 2001 годзе ў Мінску з'явілася вытворчае аб'яднанне «Каралева Агню», якое актыўна пачало займацца вытворчасцю рэкламна-сувенірных запалак у пашыраным асартыменце. «Каралева Агню» выпусціла вельмі шмат прыгожых і розных па памерах запалак з каляровымі этыкеткамі беларускіх гарадоў. Многія запалкі з выявамі гарадоў аб'яднанне выдае са спецыяльнымі магнітамі. Праўда, у асноўным уся іх сувенірная запалкавая прадукцыя выпускаецца на рускай мове.

**Выявы запалкавых этыкетак з уласнай калекцыі аўтара**

# Беларускае кіно выходзіць з падполля

Андрэй РАСІНСКІ

**Пакуль дзяржаўнае беларускае кіно знаходзіцца ў коме, па-за межамі кінастудыі атабарыліся мастакі, не абцяжараныя бюракратыяй. Колькасць самастойных твораў ужо настолькі значная, а якасць настолькі паважная, што незалежніцкае беларускае кіно стала атабарылася на фестывалях і атрымлівае ўзнагароды.**



**Кадр з фільма «Адной крыві»**

Спачатку гэтыя фільмы з'яўляліся на варшаўскім фестывалі «Бульбамуві». Пяты фэст «Бульбамуві» праходзіў у кастрычніку адначасова ў Варшаве і Мінску — і сталічныя гледачы маглі пабачыць асобныя стужкі. На фестывалі «Лістапад» цэлы блок, прысвечаны беларускаму кіно, — і гэта пераважна фільмы маладых творцаў.

Карціна «Адной крыві» Мітрыя Сямёнава-Алейнікава ўжо атрымала прыз у Вене за лепшы ігравы кароткаметражны фільм і ўзнагароду «Залатая бульба». Фільм распавядае пра двух братоў, адзін з якіх змагаецца з сістэмай, а другі — канфарміст, які дакарае свайго брата. Але абставіны трагічна змяняюцца.

Сюжэт пра двух братоў па розныя бакі барыкады ўжо эксплуатавала стужка «Мы, браты». Але карціна Сямёнава-Алейнікава — гэта якасны мастацкі твор з празрыстым сюжэтам і дакладнымі характарамі.

Рэжысёр закончыў Беларускую Акадэмію мастацтваў як акцёр, у 2013 годзе паступіў ва ВГІК на кінарэжысуру і кінадраматургію. Карціну ён здымаў у Мінску, на свае, зробленыя падчас працы, грошы. Нягледзячы на бюджэт, кароткая стужка выглядае як поўнаметражны фільм вялікай кінастудыі — з разгонам дэманстрацый, сутыкненнямі, кактэйлямі Молатава і паліцэйскай машынай у агні. (У фільме дзейнічае не міліцыя, а паліцыя).

Энергічны, без кроплі лішняга тлушчу фільм далёкі і ад «застабільнае» прапаганды і ад гвалтоўнай паэтыкі барыкадаў. Гэта свой — і ўніверсальны — беларускі пазірк, які і ў Вене быў прачытаны як уласны.

Адразу некалькі фільмаў маладога рэжысёра Мікіты Лаўрэцкага трапіла ў конкурс. Поўнаметражная стужка «Беларускі псіхапат» распавядае пра фатографа-псіхапата, які запрашае да сябе дзяўчынку з сяброўкамі, каб згубіць цноту. У фільме «Амэрыкан бой» хлопец, які настальгуе па радзіме, вяртаецца ў Мінск — але тут усё змянілася. Карціна «Паэзія» — лірычная скайп-гісторыя пра юнака і дзяўчыну, які закахаліся — і расталіся, але ўсё адно яшчэ разам ва ўласных вершах.

21-гадовы Лаўрэцкі пачынае шлях у кінематографе, але што здзіўляе — гэта здольнасць рэжысёра, няхай недасканалаю яшчэ тэхнікай, — схапіць імгненне, намаляваць час, адлюстраваць няўлоўныя змены.

Паказальны моўныя моманты «Амерыкан боя» — гэта беларуская, руская, англійская мова. Фільм «Паэзія» цалкам зроблены на англійскай мове, пры гэтым вершы напісаў сам Лаўрэцкі.

Лаўрэцкі ўдала карыстаецца сучаснымі інтэрнэт-сродкамі. «Паэзія» — гэта, увогуле, сецевы фільм. Акцёраў рэжысёр знайшоў у павуцінні на форумах, амерыканскія сябры знялі свае кватэры — і метро ў Нью-Ёрку — і гэтыя кадры ўвайшлі ў фільм. Для скайп-гутарак (прыдуманых і разыграных як дакументальны факт) — таксама не трэба было «беларусьфільмаўскай» камеры.

Сяргей Каласоўскі — вучань Варшаўскай кінашколы — прадстаўлены на фэсце дакументальнай і ігравой стужкай. Правакацыйная дакументальная карціна «Шэпты і крыкі Тані Б.» (назва гулліва адсылае да фільму Бергмана) — паказвае ласкавую маці, якая днём са сваім сынам, а ўначы — на скандальных клубных забавах. У сваю чаргу ігравы фільм «Пугач» — пра небяспечныя гульні дзяцей.

Мінчанка Дар'я Юркевіч вучыцца ў Парыжскай кінашколе. Яе дакументальная «Пасха Хрыстова» (прыз «Залатая бульба») — медытатыўна-лаканічная замалёўка пра веру, з усіх бакоў аточаную абыякавым горадам і штодзённымі клопатамі.

Падпольным чынам здымаў сваю чарговую стужку і Андрэй Курэйчык. Ягоны «ГараШ» — камедыя пра беларуса, які з Амерыкі вяртаецца ў Шабаны. У галоўнай ролі зняўся лідар гурта «Нейрадзюбель» Аляксандр Кулінковіч.

У Беларусі рыхтуецца ўказ, які паставіць незалежную кінавытворчасць па-за законам. Нягледзячы на гэта, самастойнае беларускае кіно з'явілася і дэманструе сваю жыццяздольнасць, што забаронамі не скасаваць.

# «Крамбамбуля»: ад застольнай да партызанскай

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Сапраўднае свята чакае аматараў беларускай рок-музыкі 7 лістапада ў Вільні, дзе адбудзецца прэзентацыя альбома «Крамбамбулі» «Чырвоны штраль». Як заяўляюць самі музыканты, пасля гэтага яны «плануюць сысці ў лясы».**


Фота Анатоля Мяльгуя
**Лявон Вольскі адказвае на пытанні**

Але каб гэтая прэзентацыя, як і сам альбом, пакінулі адметны след у гісторыі беларускага року, музыканты выкарысталі некалькі апрабаваных прыёмаў для раскруткі свайго музычнага прадукту і яго канцэртнай прэзентацыі. Адным з самых прадуктыўных, на мой погляд, стала сэнсава неакрэсленая заява пра тое, што музыкі пасля прэзентацыі «Чырвонага штралю» «сыходзяць у лес». Што гэта значыць і ці пачуюць беларускія фанаты «Крамбамбулі» новыя хіты ад улюбёных выканаўцаў? Больш абазнаныя ў законах шоў-бізу прыводзілі прыклад гурта «Scorpions», які «сыходзіў у лясы» ўжо разоў пяць і заўсёды вяртаўся адтуль з нязменным фінансавым прыбыткам.

Так гэта ці не, выпала магчымасць даведацца цікаўным падчас аўтограф-сесіі, якую наладзілі музыканты і ўладальнікі інтэрнэт-крамы «symbal.by» для ўсіх аматараў творчасці Лявона Вольскага і гурта «Крамбамбуля» ў адным са сталічных гандлёвых цэнтраў. Там жа ахвотным можна было набыць сувенірную прадукцыю — мерч, прысвечаны сімволіцы альбома «Чырвоны штраль» і ўсяму таму, што звязана з гуртом: тэматычныя «партызанскія» цішоткі, пашпарты, сцягі, торбы і іншыя сувеніры, якія распрацаваў дызайнер Ігар Назараў. Тым, хто прыйшоў на аўтограф-сесію, былі прапанаваныя фірмовыя кружэлкі з альбомам «Чырвоны штраль» і магчымасць атрымаць аўтограф любімых выканаўцаў, а таксама набыць квіткі на прэзентацыю дыска ў Вільні.

Такую падзею сапраўдныя прыхільнікі беларускай рок-музыкі прапусціць не маглі! І таму многія з іх прыйшлі раней, каб выбраць сувеніры, якія спадабаліся, і чакалі музыкантаў. Час ішоў марудна, і арганізатары сесіі, каб больш паінфармаваць маладых аматараў творчасці «Крамбамбулі», далі слова ветэрану беларускай рок-журналістыкі, пісьменніку Віталю Мартыненку, які праз прызму сваёй новай кнігі «ROCK online», распавёў прысутным пра творчы шлях гурта і яго лідара Вольскага, пра пакручасты лёс беларускай рок-музыкі і выказаў упэўненасць, што ўсе яе цяперашнія цяжкасці часовыя і адыдуць у мінулае разам з пакаленнем тых чыноўнікаў, які засвоілі толькі навуку забаронаў.

Тым часам зала загула, і пад агульныя воплескі Лявон Вольскі і ўдзельнікі «Крамбамбулі» занялі адведзеныя ім месцы ў зале гандлёвага цэнтра. Лявон у сваёй нязмушанай дыялогавай манеры распачаў сесію адказамі на пытанні маладых слухачоў. Іх цікавілі разнастайныя праблемы: ад адносінаў да гурта «Дай Дарогу!» і да Сяргея Міхалка асабіста, ад магчымасці «пераходных» канцэртаў (у пешаходных пераходах) і футбольных прыхільнасцяў, да таго, што адчувае музыкант, калі ў яго адрас гучаць апладысменты.

Лявон таксама шчыра адказваў і на некаторыя глабальныя пытанні, звязаныя з працэсамі ў жыцці нашай краіны, адносінамі з афіцыйнымі прадстаўнікамі ўлады, дзяліўся сваімі думкамі пра падзеі, якія абмяркоўваюцца ў нашым грамадстве.

Прысутных на аўтограф-сесіі цікавіла і пытанне пра тое, ці сапраўды музыканты «Крамбамбулі» «збіраюцца ў лес» — ці на «партызанскім» слэнгу, збіраюцца завяршыць канцэртную дзейнасць? Лявон Вольскі ад імя ўсіх удзельнікаў гурта падкрэсліў: «Мы ніколі не казалі, што гэта апошні канцэрт, мы казалі, што гэта апошні альбом (чым выклікаў здзіўленыя воклічы і апладысменты!). Розніца ў тым, што, хутчэй за ўсё, мы больш не будзем выпускаць альбомы, і пакідаем за сабой права выпускаць адну-дзве песні, з нагоды нейкай усхваляваўшай нас падзеі. А тут, у Беларусі, мы выступаць не плануем з-за пастаянных бюракратычных перашкод. Толькі дзесьці за мяжой — на «Басовішчы», на замежных фэстах, у тым ліку і ва Украіне, будзем разглядаць і «партызанскія» прапановы выступаць там, «дзе ёсць побач лес».



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.by
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1418

Падпісана да друку 6. 11.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.